*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года    № 37 (525)    19 ВЕРАСНЯ 2001 г.

## У Светлагорску закрываюць філіял Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя

***Улады Светлагорска (Гомельская вобласць) вырашылі закрыць філіял Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа. Пра гэта БелаПАН паведаміў старшыня гарадской рады грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" Вадзім Болбас.***

Паводле яго слоў, загадчыца гарадскога аддзела адукацыі Галіна Філіповіч накіравала дырэктару філіяла Тэльману Маслюкову загад аб закрыцці навучальнай установы. Згодна з ім, усе ліцэісты пераводзяцца ў склад вучняў 1-й школы з абяцаннем захаваць выкладанне на беларускай мове, а адзін з будынкаў навучальнай установы перадаецца Дому дзіцячай і юнацкай творчасці. Прычым усё гэта падаецца, як рэарганізацыя навучальнай установы, падкрэсліў Болбас.

Нетрадыцыйная сістэма навучання, выкладанне ўсіх прадметаў на беларускай мове і свабодныя зносіны паміж ліцэістамі і выкладчыкамі выклікалі пастаяннае незадавальненне мясцовых улад, сказаў Болбас. Паводле яго слоў, апошняй кропляй, якая перапоўніла чашу цярпення гарадской "вертыкалі", стала сустрэча навучэнцаў, настаўнікаў і гарадской інтэлігенцыі з пісьменнікам Уладзімірам Арловым, бардамі Зміцерам Бартосікам і Вольгай Цярэшчанка.

Светлагорскі філіял Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа адкрыўся ў 1992 годзе і ажыццявіў ужо пяць выпускаў. Адным з яго сузаснавальнікаў выступіла мясцовая арганізацыя ТБМ.

*Марат Гаравы.*

---

**Віцэ-прэм'еру кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь**
**Дземчуку М. І.**

**Паважаны Міхаіл Іванавіч!**

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" выказвае свой рашучы пратэст у сувязі з рашэннем уладаў г. Светлагорска зачыніць адзіную ў горадзе беларускамоўную навучальную ўстанову – філіял Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа.

Светлагорскі філіял Нацыянальнага ліцэя імя Якуба Коласа быў адчынены ў 1992 г. і ажыццявіў ужо пяць выпускаў, зарэкамендаваўшы сябе, як лепшая ў горадзе сярэдняя навучальная ўстанова. Яе ліквідацыя, якая праводзіцца пад выглядам "рэарганізацыі" (а менавіта далучэння ліцэйскага філіяла да адной з сярэдніх школ) з'яўляецца абурэльным фактам наступу на беларускамоўную адукацыю.

Рашэнне зачыніць філіял ліцэя выклікала законны пратэст грамадскасці Светлагорска. Пачынаючы ад 11 верасня ліцэісты разам з педагогамі, бацькамі і грамадскасцю праводзяць пікетаванне гарвыканкаму, адстойваючы свае канстытуцыйныя правы навучацца на роднай мове.

Звяртаем увагу на тое, што дзеянні Светлагорскага гарвыканкаму па ліквідацыі адзінай у горадзе беларускамоўнай навучальнай установы пярэчаць не толькі Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, але і перадвыбарчай праграме А. Лукашэнкі, дзе падкрэслівалася неабходнасць захавання і падтрымкі мовы тытульнай нацыі краіны, у тым ліку і ў сферы адукацыі.

Просім Вашага тэрміновага ўмяшання дзеля захавання прэстыжнай беларускамоўнай навучальнай установы.

*З павагай Старшыня ТБМ    Алег Трусаў.*

---

**Кіраўніку Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь**
**Латыпаву У. Р.**

**Паважаны Урал Рамдракавіч!**

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" просіць Вашага тэрміновага ўмяшання ў сітуацыю, якая склалася ў г. Светлагорску Гомельскай вобл. у сувязі з рашэннем гарадскіх уладаў зачыніць філіял Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа – адзіную ў горадзе беларускамоўную навучальную ўстанову.

Светлагорскі філіял Нацыянальнага ліцэя імя Якуба Коласа існуе ўжо 9 гадоў, і за гэты час зарэкамендаваў сябе, як лепшая ў горадзе сярэдняя навучальная ўстанова. Спроба яе ліквідацыі з'яўляецца абурэльным фактам наступу на беларускамоўную адукацыю.

Дзеянні ўладаў г. Светлагорска выклікалі законны пратэст: ужо некалькі дзён працягваюцца пікеты ліцэістаў, якія разам з педагогамі, бацькамі і прадстаўнікамі грамадскасці бароняць свае права навучацца на роднай мове.

Звяртаем увагу на тое, што пазіцыя, занятая Светлагорскім гарвыканкамам у дачыненні да адзінай мясцовай беларускамоўнай навучальнай установы пярэчыць не толькі Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, але і перадвыбарчай праграме А. Лукашэнкі, дзе падкрэслівалася неабходнасць захавання і падтрымкі мовы тытульнай нацыі краіны, у тым ліку і ў сферы адукацыі.

Спадзяёмся, што з Вашай дапамогай Светлагорскі філіял Нацыянальнага дзяржаўнага ліцэя імя Якуба Коласа будзе захаваны.

*З павагай Старшыня ТБМ    Алег Трусаў.*

---

**Спадару Майклу Козаку,**
**Амбасадару Злучаных Штатаў Амерыкі**
**ў Рэспубліцы Беларусь**

Таварыства беларускай мовы выказвае шчырае спачуванне народу Злучаных Штатаў Амерыкі з нагоды напаткаўшай яго трагедыі 11 верасня 2001 года. Мы абураныя злачыннымі актамі міжнароднага тэрарызму здзейсненымі, на тэрыторыі Вашай краіны. Упэўненыя, што арганізатары тэрору будуць знойдзеныя і пакараныя.

Мы смуткуем разам з Вамі і перажываем боль амерыканскага народа.

12 верасня 2001 г. г. Менск    Старшыня Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны Алег Трусаў.

---

# У гонар беларускай мовы

Слынны руплівец беларускай мовы Анатоль Белы прыступіў да стварэння манументальнага ансамбля "Змагарам за родную мову". Выканана першая частка. На сцяне музея выяўленчага мастацтва ў Старых Дарогах размешчаны словы Францішка Багушэвіча і герб Пагоня. Другая частка будзе ўяўляць сцэлу з сотняй прозвішчаў людзей, якія ўнеслі і ўносяць найбольшы ўклад у развіццё і абарону беларускай мовы. Па просьбе Анатоля Белага рэдакцыя "Нашага слова" прапануе для разгляду першыя 66 імён і звяртаецца да сваіх чытачоў з просьбай дасылаць свае прапановы ў гэты спіс. Прапановы просьба дасылаць на адрас ТБМ у Менск на Румянцава, 13.




1. Францішак Скарына.
2. Мікалай Радзівіл Чорны.
3. Мікалай Радзівіл Руды.
4. Сымон Будны.
5. Мацей Кавячынскі.
6. Васіль Цяпінскі.
7. Пётр Мсціславец.
8. Астафі Валовіч.
9. Леў Сапега.
10. Рыгор Хадкевіч.
11. Лаўрэн Зізаній.
12. Мялеці Сматрыцкі.
13. Спірыдон Собаль.
14. Сімяён Полацкі
15. Мамонічы.
16. Ілья Капіевіч.
17. Адам Міцкевіч.
18. Ян Чачот.
19. Ян Баршчэўскі.
20. Вінц. Дунін-Марцінкевіч.
21. Віктар Каліноўскі.
22. Кастусь Каліноўскі.
23. Францішак Багушэвіч.
24. Паўлюк Багрым.
25. Яўхім Карскі
26. Іван Насовіч.
27. Браніcл. Эпімах-Шыпіла.
28. Янка Лучына.
29. Янка Купала.
30. Якуб Колас.
31. Максім Багдановіч.
32. Магдалена Радзівіл.
33. Элаіза Пашкевіч (Цётка).
34. Карусь Каганец.
35. Змітрок Бядуля.
36. Іван Луцкевіч.
37. Антон Луцкевіч.
38. Вацлаў Ластоўскі.
39. Вацлаў Іваноўскі.
40. Аляксандр Уласаў.
41. Браніслаў Тарашкевіч.
42. Алесь Гарун.
43. Язэп Лёсік.
44. Цішка Гартны.
45. Алесь Чарвякоў.
46. Мікола Ўлашчык.
47. Кандрат Крапіва.
48. Максім Танк.
49. Пімен Панчанка.
50. Янка Брыль
51. Фёдар Янкоўскі.
52. Рыгор Шырма.
53. Уладзімір Караткевіч.
54. Васіль Быкаў.
55. Уладзімір Мулявін.
56. Зянон Пазьняк.
57. Станіслаў Шушкевіч.
58. Ніл Гілевіч.
59. Генадзь Бураўкін.
60. Міхал Забэйда-Суміцкі.
61. Аляксандр Надсан.
62. Уладзіслаў Завальнюк.
63. Івонка Сурвіла.
64. Павел Сцяцко.
65. Данчык.
66. Алесь Белакоз.

Гэты спіс абсалютна прыкладны і падаецца толькі з мэтай пачатку шырокага грамадскага абмеркавання. Канчатковы варыянт спісу будзе фармавацца самім Анатолем Белым, але з улікам усіх прапаноў і пажаданняў.

## Справаздача Камісіі па міжнародных сувязях з кастрычніка 1999 года па травень 2001 года

Ад пачатку ў дзейнасці камісіі вызначыліся два аўтаномныя напрамкі, абумоўленыя спецыфікай адрасатаў і патэнцыяльных супрацоўнікаў камісіі за межамі Беларусі:

1. Усталяванне кантактаў і супрацоўніцтва з замежнымі роднаснымі арганізацыямі і ўстановамі (сябрамі гэтых арганізацый з'яўляюцца небеларусы);

2. Усталяванне кантактаў і супрацоўніцтва з суайчыннікамі (беларусамі) за мяжой.

Кожны з названых кірункаў мае сваю спецыфіку. Калі супрацоўніцтва з замежнымі арганізацыямі (у шэрагу выпадкаў яно прадугледжвае валоданне якой-небудзь замежнай мовай) мае на ўвазе абмен інфармацыяй і досведам і рэалізацыю сумесных праектаў у значнай меры на раўнапраўнай аснове, то сувязі з суайчыннікамі прадугледжваюць у значнай ступені "донарскую" дапамогу з боку ТБМ сваім суполкам за мяжой. У той час, як галоўнай цяжкасцю ў супрацоўніцтве з замежнымі арганізацыямі з'яўляецца пошук новых зацікаўленых партнёраў, кантакты з суайчыннікамі маглі б быць асабліва плённымі тады, калі б Таварыства валодала значнымі матэрыяльнымі і фінансавымі рэсурсамі. Калі супрацоўніцтва з суайчыннікамі можа паспяхова ажыццяўляцца ўжо цяпер, то супрацоўніцтва з замежнымі арганізацыямі мае перадумовай наяўнасць даступнай нашым патэнцыяльным партнёрам інфармацыі пра ТБМ і беларускую мову на замежных мовах.

Камісія ў рознай ступені была падрыхтавана да гэтых двух відаў дзейнасці. Калі супрацоўніцтва з суайчыннікамі ўжо мае ў Таварыстве пэўную традыцыю (у 1991 годзе ў нас ужо была ўзначальваная Барысам Сачанкам камісія па сувязях за межамі рэспублікі і СССР), акрамя таго, такая праца вядзецца па-за межамі Таварыства (Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" і інш.), то супрацоўніцтва з роднаснымі замежнымі арганізацыямі трэба асвойваць упершыню. Такім чынам, за прамінулы перыяд:

1.1. Суполкам латышскіх і польскіх беларусаў перададзеныя тэксты "Усеагульнай дэкларацыі моўных правоў" і "Хартыі рэгіянальных і мінарытарных моў у Еўропе".

1.2. Рэдакцыі газеты "Ніва" ў Беластоку падораны "Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы".

1.3. Арганізавана суполка ТБМ у Нямеччыне.

1.4. Падчас правядзення апошняга з'езду беларусаў свету розным суполкам беларусаў былі перададзены камплекты літаратуры.

1.5. Некаторыя суполкі ТБМ за мяжой (напрыклад, у Канадзе, Польшчы і іншых краінах) утвараліся, бадай, без непасрэднага ўплыву сяброў камісіі. Акрамя таго, за мінулы перыяд розныя кантакты на міжнародным узроўні мелі многія кіраўнікі Таварыства, напрыклад, Алег Трусаў, Людміла Дзіцэвіч, Сяржук Кручкоў і іншыя.

Увогуле, трэба сказаць, што плённасць кантактаў з замежнымі беларусамі моцна залежыць ад актыўнасці ТБМ тут, на Радзіме. Акурат актыўнасць "мацерыковых" тэбээмаўскіх арганізацый здольна моцна спрычыніцца да актывізацыі тэбээмаўскіх суполак за мяжой. Звяртае ўвагу ў гэтым плане тое, што на апошнім з'ездзе беларусаў свету некалькі дэлегатаў у сваіх прамовах станоўча ацэньвалі працу ТБМ у апошні час, і гэта, несумненна, з'яўляецца зарукай патэнцыяльнай актывізацыі дзейнасці ТБМ у асяродках беларусаў за мяжой.

2.1. Для размяшчэння на старонцы ТБМ у Сеціве падабраны з ужо існых або рыхтуюцца адмыслова 16 прац пра беларускую мову на англійскай, нямецкай, расійскай і чэшскай мовах. Сярод іх такія працы як двухтомны ангельскамоўны падручнік беларускай мовы Валянціны Пашкевіч, ангельскамоўная граматыка беларускай мовы Пітэра Джона Мэё, ангельска-беларускі слоўнік, падручнік беларускай мовы на расійскай мове, некаторыя працы аўстрыйскага беларусіста Германа Бідэра (на нямецкай і расійскай мове), чэшскага беларусіста Алеша Бранднера і інш. Папярэдне звязаўшыся з аўтарамі, мы атрымалі дазвол на размяшчэнне гэтых прац на старонцы ТБМ; часам патрэбна было здабыць і самыя працы, бо Таварыства некаторых з іх не мела. Паколькі ўсе гэтыя артыкулы і кнігі ў нас ёсць у папяровым выглядзе, размяшчэнне іх у Сеціве прадугледжвае іх папярэдняе скананванне, распазнаванне і вычытванне, а гэта вельмі працаёмкая справа. Гэтай працай займаліся і займаюцца маладзейшыя сябры камісіі Таццяна Пятровіч, Яўгенія Волкава, Марына Уласава, Уладзімір Кошчанка, Алесь Стральцоў, усім ім выказваю шчырую падзяку.

2.2. Зроблены захады для ўсталявання сувязі з Еўрапейскім бюро менш ужываных моў (Брусель) і беларускай камісіяй у справах ЮНЕСКА.

2.3. Уладзімір Кошчанка выступіў з паведамленнем пра беларуска-ірландскія моўныя супастаўленні на беларуска-ірландскай вечарыне ў Доме сяброўства. Ён жа выступіў з дакладам на валійскую тэму на канферэнцыі, прысвечанай Закону аб мовах. З мэтай навязання кантактаў з валійскімі моўнымі арганізацыямі Уладзімір Кошчанка наведаў Валію, дзе завязаў кантакты з Камітэтам валійскай мовы.

2.4. Таварыству ўкраінскай мовы, шэрагу украінскіх бібліятэк і прыватных асоб ва Ўкраіне, а таксама ў Польшчу, Чэхію, Аўстрыю, Германію, Венгрыю, ЗША перададзены зборнік "Аняменне" Рэцэнзіі на зборнік апублікаваны ў чэшскім славістычным часопісе "Opera Slavica" і ў часопісе "Урок української". У часопісе "Урок української" апублікаваны і некаторыя іншыя матэрыялы пра беларускую сітуацыю.

2.5. Масарыкаваму ўніверсітэту ў Брно (Чэхія) падораны трохтомны "Руска-беларускі слоўнік" і "Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы". Сяргей Запрудскі выступіў з дакладам пра сучасны стан нормаў беларускай літаратурнай мовы на пасяджэнні брненскай філіі Чэшскага лінгвістычнага таварыства.

2.6. У траўні 2000 года і траўні 2001 года Сяргей Запрудскі выступіў з дакладамі ў Кіеве на канферэнцыях "Дзяржаўнасць украінскай мовы і моўны досвед свету" і "Моўныя канфлікты і гарманізацыя грамадства".

2.7. Алесь Стральцоў падрыхтаваў праект ліста ТБМ на ангельскай мове для карыстальнікаў Сеціва адносна правапісу слоў "Беларусь" і "беларускі" па-ангельску. Ліст мяркуецца даслаць на самыя розныя адрасы.

3.1. Акрамя таго сябры камісіі

а) Ініцыявалі падрыхтоўку буклета-візітоўкі ТБМ і ўзялі непасрэдны ўдзел у напісанні адпаведнага тэксту;

б) Выконвалі некаторыя даручэнні, звязаныя з перакладам на замежныя мовы. Перакладзены, у прыватнасці, на нямецкую мову – канцэпцыя стварэння БНУ (М. Уласава), на ангельскую – дэкларацыя аб беларускай мове (А. Таболіч). А. Таболіч выконвала і іншыя пераклады на ангельскую мову.

в) Мы адказалі на шэраг лістоў-запытаў, адрасаваных у ТБМ з-за мяжы (пераважна яны датычыліся магчымасці вывучаць беларускую мову праз Сеціва або пры дапамозе падручнікаў).

г) На прсьбу Зм. Галубкова з Масквы знойдзены для перадачы яму падручнік па вывучэнні беларускай мовы рускамоўным.

3.2. Некалькі сяброў камісіі (С. Запрудскі, В. Іпатава, У. Кошчанка, А. Таболіч, Г. Цыхун) бяруць непасрэдны ўдзел у выпрацоўцы Стратэгіі развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі.

*Старшыня камісіі Сяргей Запрудскі.*

Павел Сцяцко

## З чарговых лексікалагічных нататкаў

Сучасны беларускі нацыянальны друк актыўна працягвае традыцыю адраджэння і далейшага дасканалення беларускай мовы, закладзеную ў першай палове 90-х гадоў XX стагоддзя. Узнікаюць больш дакладныя і апраўданыя формы ранейшых слоў, а таксама новыя лексічныя адзінкі на месцы ранейшых штучных пазычанняў з усесаюзнага стандарту.

**Аднамесцавы, двухмесцавы – і аднамесны, двухмесны.** Першыя з гэтых слоў маюць выразную будову і матываванае значэнне: *адно месца > аднамесцавы, два месцы > двухмесцавы.* Г.зн. у прыметніку цалкам захоўваецца аблічча кораня другой часткі слова *месц-(а)*. У другіх утварэннях адбываецца скарачэнне каранёвай часткі другога слова за кошт адцінання фінальнай часткі *–ц-*: *аднамес(ц)ны, двухмес(ц)ны*. А гэта вядзе да аслаблення выразнасці матывавання (сэнсу) слова. Таму на месцы зафіксаваных у акадэмічных слоўніках формаў *аднамесны, двухмесны* (= рас. *одноместный, двухместный*) сталі актыўна выкарыстоўвацца выразна матываваныя ўтварэнні з суфіксам *–ав-*, які дазваляе цалкам захаваць структуру абодвух складнікаў вытворнага слова.

Формы *аднамесцавы* і *разнамесцавы* замацоўваюцца і ў складзе лінгвістычнай тэрміналогіі: *аднамесцавы* нацыск (інакш сталы, фіксаваны) і *разнамесцавы* нацыск (інакш нефіксаваны, свабодны). Іх бачым у кнізе "Уводзіны ў мовазнаўства" В. І. Рагаўцова і А. Л. Юрэвіча (Мн., 1987) і "Уводзіны ў мовазнаўства" П. У. Сцяцко (Гродна, 2001).

Да гэтага зазначым: суфікс *–ов- (-ав-, -ев-)* досыць актыўны пры ўтварэнні складаных прыметнікаў у беларускай мове: *аднабаковы (рас. односторонний), аднаактавы (одноактный), аднавосевы (одноосный), аднагадовы (однолетний), аднакаляровы (одноцветный), аднапавярховы (одноэтажный), аднаскладовы (односложный), аднатыпавы (однотипный)* ды інш.

З улікам згаданага ёсць усе падставы для таго, каб формы *аднамесцавы, двухмесцавы*, а таксама *разнамесцавы* ды падобныя стала замацаваліся ў слоўніку літаратурнай мовы.

**Разглядацца, вывучацца ці прапрацоўвацца?** Немілагучнае, цяжкавымоўнае *"прапрацоўвацца"* ўзнікла ў выніку калькавання рас. *"прорабатываться"*. І калі ў расейскай мове яно звычайнае, натуральнае слова, то ў беларускай – штучнае, немілагучнае, - гэта своеасаблівая гукавая абракадабра (*прапра...*). Між тым у беларускай мове ёсць свае натуральныя адэкваты яго – *вывучацца, разглядацца*. На жаль, непатрабавальная да культуры мовы аўтары "утыкаюць" гэтую "гукавую абракадабру" ў тэксты. Вось адзін з прыкладаў яго выкарыстання ў газетным паведамленні: "Цяпер прапрацоўваецца варыянт для працягу гэтага рэйсу з Менска. Магчыма, што з сярэдзіны чэрвеня гамяльчане пачнуць лятаць у Калінінград. Вывучаецца пытанне і аб адкрыцці рэйсу ад Масквы" (Пагоня. №22 (518). 31 траўня 2001 г.). Як бачым, замест штучнага *"прапрацоўваецца"* (пытанне) тут ужыты натуральны яго адпаведнік *"вывучаецца"*, а ў пачатку тэксту яно пакінута, хоць трэба было замяніць на *"разглядаецца"* (варыянт).

**Асноўная, галоўная ці вядучая тэндэнцыя?** У адным з навуковых тэкстаў чытаем: "Аднак функцыянальны аналіз тэрміналагічных сістэм паказвае, што "ізамарфізм, як узаемнаадназначная адпаведнасць паміж сістэмай панаяцця і сістэмай тэрмінаў (адно панаяцце – адзін знак, адзін знак – адно панаяцце) існуе як вядучая тэндэнцыя і ніколі не рэалізуецца цалкам..." Тут аўтар беларускага тэксту пакінуў без перакладу рас. *ведущая*. Між тым дзеяслоўныя формы з суфіксам *–уч-* беларускай мове неўласцівыя. На месцы гэтай штучнай структуры выкарыстоўваецца сваё слова *галоўная* ці *асноўная* (тэндэнцыя).

**Матывавальнае і матываванае слова (аснова) – а не матывуючае.** "Назвы ў асноўным паходзяць ад апелятываў, матывуючыя асновы звязаны з раслінным і жывёльным светам". Штучнае ў гэтым тэксце *"матывуючыя"* (асновы) з рас. *"мотивирующие"*. У сучаснай лінгвістычнай тэрміналогіі выкарыстоўваюцца тэрміны *матывавальнае* слова (аснова) - *'тое, якое матывуе'* (рас. *мотивирующее*) і *матываванае* (рас. *мотивированное*). Натуральным фармантам пры ўтварэнні гэтага тэрміну (як і іншых падобных) выступае суфікс *–льн-* з значэннем актыўнай працэсавай прыметы. Тэрміны *матывавальная* і *матываваная* аснова бачым і ў найноўшай лінгвістычнай працы "Словаўтварэнне і граматыка" (Мн.: Права і эканоміка. 2001. – 252 с.). Трэба думаць, што найменне *матывавальнае* слова (аснова) стане адзінай нарматыўнай формай у беларускай лінгвістычнай тэрміналогіі, як і *ўтваральнае* слова (аснова), якое раней пэўны час (асабліва ў школьных падручніках) ужывалася ў штучнай форме *"ўтвараючае"* слова (аснова) пад уплывам расейскага эквівалента з суфіксам *–ущ-(-ющ) – образующая* аснова.

**Складнік, складальнік і складавая (складальная) частка ці састаўляючая?** "Фарманты як адзінкі марфемнага ўзроўню мовы таксама характарызуюцца наяўнасцю пэўнай семантыкі, якая з'яўляецца *састаўляючай* лексічнай семантыкі такой комплекснай субстанцыянальнай адзінкі словазлучэння, як матываванае слова (сінтагма)". У гэтым перакладзе з расейскай мовы пакінутае без перадачы па-беларуску слова *"составляющей"*, (толькі суфікс *–ющ-* заменены на *–юч*). Між тым рас. *составить / составлять* адпавядаюць іншакаранёвыя беларускія словы *скласці, складаць, складваць* (ды інш.). "Руска-беларускі слоўнік" 1993 г. (Т.3. С.417) фіксуе: ...4. (образовывать какое-либо количество) *складаць, складваць*; 5. (создавать путём наблюдений или логических заключений) *складаць, складваць*". Падаецца тут і вытворнае ад *составлять*: "Составляющая сущ. 1. Мат., мех. Складальная; 2. Перен. *складальнік*; *составляющие* успехов – *складальнік* поспехаў".

Сучасны нацыянальны друк выкарыстоўвае і "больш кароткія" формы: *складовая* (частка) і *складнік*. Зусім натуральна гучаў бы тэкст: ..."якая выступае складнікам (складальнікам) лексічнай семантыкі..." Праўда, аўтар праігнараваў *сучасную норму, а па*карыстаўся ранейшай – савецкай *"састаўляючай"*, зафіксаванай паводле патрабаванняў камуністычнай ідэалогіі ў межах усесаюзнага стандарту ў РБС-53 і РБС-82.

**Доўгажыхар і доўгажыхарства. Ці натуральныя гэта словы?** У жывой народнай мове не даводзілася чуць такіх слоў. Гэта, відаць, калька рас. *долгожитель > доўгажыхар*, дзе другая частка *"житель"* заменена на *"жыхар"*. У "Тлумачальным слоўніку беларускай літаратурнай мовы" (Мн.,1996. С.182) падаецца наступнае азначэнне зместу гэтага слова: "Доўгажыхар, м. Чалавек, які вызначаецца сваім даўгалеццем". З дэфініцыі вынікае намінацыя *даўгалетнік*, бо структурна *доўгажыхар* усведамляецца, як складанае слова, што ўзнікла з словазлучэння *доўгі жыхар (доўг-а-жыхар)*, дзе злучальная галосная *–а-* аб'ядняла дзве асновы ў вадно слова. У "Тлумачальным слоўніку" падаецца і прыклад "Дрэвы – доўгажыхары", што ужо зусім нагадвае абракадабру. Замест яго кажуць "даўгалетнія дрэвы". "Русско-белорусский словарь" 1993 года (Т.1 С.387) падае да рас. *долгожитель* і беларускія адпаведнікі *даўгавечны, даўгавечнік*. Думаецца, што гэтыя словы больш адпавядаюць моўнай рэальнасці: семантыка лексемы *даўгавечнік* матывуецца словаспалучэннем *'чалавек доўгага веку'*. І натуральным здаецца вытворнае ад *даўгавечны* слова *даўгавечнасць* (а не *даўгажыхарства < доўгае жыхарства*).

24 жніўня 2001 г. № 440

Кіраўніцтву
Белдзяржтэлерадыёкампаніі
Рэспублікі Беларусь
220807, г. Мінск, вул. Макаёнка, 9

Паважанае спадарства!

Улічваючы тое, што на тэрыторыі Беларусі прымаюцца шматлікія расійскія тэлеканалы (ад 2 да 7 у залежнасці ад рэгіёну), а таксама працуе цалкам рускамоўнае "Сталічнае тэлебачанне", вяшчанне адзінага беларускага тэлеканала складае каля 10-30% ад агульнага часу ў эфірнай прасторы. Такім чынам правы на атрыманне інфармацыі рускамоўным насельніцтвам цалкам забяспечваецца. Але беларускамоўнае не адчувае роўнасці дзвюх дзяржаўных моў і знаходзіцца ў дыскрымінацыйным становішчы. Трэба дадаць і тое, што ў найбольш дынамічным сегменце радыёпрасторы FM-эфіры таксама бязмежна пануе руская мова ("Радыё-Альфа", "Радыё Бі-Эй", "Радыё Мір", "Радыё-Стыль", "Рускае радыё" і г.д.). Нават адзіная беларускамоўная станцыя "Сталіца" апошнім часам скарачае вяшчанне на беларускай мове і становіцца рускамоўнай.

**Прапановы па працы беларускага тэлебачання і распаўсюджванні FM-сігналаў на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь:**

1. Спыніць практыку выкарыстання журналістамі беларускай мовы ў якасці абразы апанентаў. Каб не даводзіць да распальвання міжнацыянальнай варожасці адхіліць ад працы ў эфіры журналістаў, якія спекулююць на моўным пытанні, а менавіта спадароў Мялешку, Казіятку, Новікава, Зімоўскага, а таксама аўтарскі калектыў перадачы "Тайныя спружыны палітыкі";
2. Стварыць назіральную раду з прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі (прыкладам: Міхаіл Фінберг, Генадзь Бураўкін, Уладзімір Содаль, Зінаіда Бандарэнка, Аляксей Дудараў і г.д.);
3. Абавязкова рабіць перадачы для дзяцей на беларускай мове, а таксама паказваць дзіцячыя стужкі, дубляваныя па-беларуску;
4. Узнавіць цыкл перадач культурнай і гістарычнай тэматыкі на беларускай мове;
5. Усе стужкі, якія агучваюцца і ствараюцца за сродкі беларускай дзяржавы, дубляваць і агучваць па-беларуску;
6. У аўтарскіх праграмах БТ, якія робяцца на рускай мове, абавязкова рабіць цітры па-беларуску;
7. Узнавіць цыкл перадач "Гаворым па-беларуску" з прыцягненнем спецыялістаў ТБМ;
8. Вырабіць шэраг рэкламных ролікаў, якія б прапагандавалі талерантнасць у адносінах да дзяржаўных моў і падвышалі імідж беларускай мовы, як роднай мовы большасці жыхароў Беларусі;
9. Распрацаваць сістэму зніжак для рэкламадаўцаў, якія жадаюць трансляваць рэкламу на беларускай мове;
10. Забяспечыць трансляцыю рэкламы на расійскіх каналах толькі на беларускай мове;
11. Рэгулярна праводзіць заняткі па культуры мовы сярод журналістаў тэлебачання, каб пазбегнуць шматлікіх памылак, што гучаць у эфіры БТ;
12. У бліжэйшы час прывесці да парытэту колькасць рускамоўных і беларускамоўных FM-станцыяў, распрацаваўшы шэраг мераў па заахвочванні інвестараў адкрываць беларускамоўныя станцыі;
13. Для існых рускамоўных FM-станцый распрацаваць адпаведную праграму па частковым пераходзе некаторых блокаў ці рубрык (навіны, аўтарскія праграмы, тэматычныя праграмы) на беларускую мову (унесці адпаведныя змены ў ліцэнзіі).

**Старшыня ГА "ТБМ імя Ф.Скарыны" Алег Трусаў.**

---

**Галоўнаму рэдактару газеты "Звязда"**
**Сп. Уладзіміру Наркевічу**

Паважаная рэдакцыя!

Мы вельмі ўдзячныя Вам, што на старонках Вашай самай масавай беларускамоўнай газеты распачалася творчая дыскусія, прысвечаная ініцыятыве ТБМ па распрацоўцы стратэгіі абароны і развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі. Дарэчы, поўны тэкст прапаноў па гэтым пытанні сп. Уладзімір Трацціякоў (яго артыкул надрукаваны ў "Звяздзе" 21 красавіка) даслаў таксама ў сядзібу ТБМ і рэдакцыю газеты "Наша слова", і мы рыхтавалі яго да друку. Паколькі "Звязда" зрабіла гэта хутчэй, бо выходзіць значна часцей, чым орган ТБМ, я прапаную надрукаваць мой адказ сп. Трацціякову ў Вашай газеце. Таксама дасылаем Вам праект "Дэкларацыі аб беларускай мове" і "Стратэгіі развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі", якія ўжо надрукаваныя ў апошніх нумарах "Нашага слова".

**З павагай**
**старшыня ГА "ТБМ імя Ф.Скарыны" Алег Трусаў.**


РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ
МІНСКІ ГАРАДСКІ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ
УПРАЎЛЕННЕ АДУКАЦЫІ
220050, г. Мінск, вул. Кірава, 5.
Тэл. 227-41-38
Тэл./факс 227-77-28

РЕСПУБЛИКА БЕЛАРУСЬ
МИНСКИЙ ГОРОДСКОЙ ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ
УПРАВЛЕНИЕ ОБРАЗОВАНИЯ
220050, г. Минск, ул. Кирова, 5.
Тел.227-41-38
Тел./факс 227-77-28

"31" 08. 2001 г. № 6-03 1724
на № 17 ад "15" 07. 2001 г.

**Таварыства беларускай мовы**
**імя Ф.Скарыны**

Упраўленне адукацыі Мінгарвыканкама павведамляе, што Ваш ліст адносна стану беларускамоўнай адукацыі разгледжаны. Органамі адукацыі, навучальнымі установамі горада з мэтай выканання Закона "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь" праводзіцца пэўная работа па падтрымцы беларускамоўнага навучання.

У горадзе Мінску ў 2000/2001 навучальным годзе працавала 11 школ, якія захавалі статус беларускамоўных. Размяшчэнне іх дазваляе рэалізаваць права бацькоў і вучняў на выбар мовы навучання: № 68, гімназія № 14 – Заводскі раён, № 110, гімназія № 9 – Першамайскі раён, гімназія № 4 – Фрунзенскі раён, ліцэй № 26 – Цэнтральны раён.

Аддзеламі адукацыі адміністрацый раёнаў пры адсутнасці беларускамоўнай школы ў мікрараёне вызначаецца апорная школа, дзе пры пэўнай колькасці пададзеных заяў адкрываюцца класы з беларускай мовай навучання. Вялікая колькасць такіх класаў функцыянавала з напаўняльнасцю 8-16 чалавек, што значна меней планавай напаўняльнасці. Напрыклад, у СШ № 210 Заводскага раёна 0 кл. – 12 ча., 1 кл. – 10 чал., 3 кл. – 13 чал.; у СШ № 1 Кастрычніцкага раёна 1 кл. – 9 чал., 10 кл. – 12 чал.; СШ № 160 Маскоўскага раёна 10 кл. – 10 чал.; у СШ № 184 Першамайскага раёна 4 кл. – 13 чал., 10 кл. – 11 чал., 1 кл. – 6 чал. Беларускамоўныя класы ў асноўным не расфармоўваюцца нават з малой напаўняльнасцю і ў 2001/2002 навучальным годзе будуць захаваны.

Органы кіравання адукацыяй прыкладаюць шмат намаганняў для захавання існай сеткі беларускамоўных школ і класаў. З гэтай мэтай праводзіцца тлумачальная работа сярод бацькоў у час набору дзяцей у школу. Работа агітацыйнага характару пастаянна праводзіцца з бацькамі вучняў беларускамоўных класаў на працягу ўсяго часу навучання.

Аднак штогод колькасць дзяцей, навучаных па-беларуску, змяншаецца: 1999/2000 навуч.год – 9,5%; 2000/2001 навуч. год – 8,5%.

У 2001/2002 навучальным годзе планавалася адкрыць 72 падрыхтоўчыя класы з беларускай мовай навучання. Па стане на 06.08.2001 г. пададзена 554 заявы, што складае 38,7% ад запланаванай колькасці.

Прапанова СШ № 23 і аддзела адукацыі адміністрацыі Савецкага раёна аб ператварэнні школы ў Мінскую гарадскую гімназію была адхілена па наступных прычынах:

- у 2000/2001 навучальным годзе ў школе адсутнічалі 1 – 4-ыя класы, а гімназія прадугледжвае набор у 5-ыя класы;
- узровень вучэбна-выхаваўчага працэсу і стану матэрыяльна-тэхнічнай базы не адпавядае патрабаванням устаноў новага тыпу.

Упраўленне адукацыі прапрацоўвае пытанне аб адкрыцці ў г. Мінску гарадской беларускай гімназіі.

**Начальнік упраўлення М. С. Ціцянкоў.**

---


МІНІСТЭРСТВА АБАРОНЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
УПРАЎЛЕННЕ ВЫХАВАЎЧАЙ ПРАЦЫ І ІНФАРМАЦЫІ
220034, Ф-2, г. Мінск, вул. Камуністычная, 1
тэл. 239-26-51

МИНИСТЕРСТВО ОБОРОНЫ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
УПРАВЛЕНИЕ ВОСПИТАТЕЛЬНОЙ РАБОТЫ И ИНФОРМАЦИИ
220034, Ф-2, г.Минск, ул. Коммунистическая, 1
тел. 239-26-51

Старшыні грамадскага
Аб'яднання "Таварыства
беларускай мовы імя
Францішка Скарыны
Трусаву А. А.

**Алег Анатольевіч.**

У Міністэрстве абароны Рэспублікі Беларусь вывучаны змест кнігі У. Арлова і Г. Сагановіча "Дзесяць вякоў беларускай гісторыі" і У. Арлова "Адкуль наш род".

Ва Ўзброеных Сілах Рэспублікі Беларусь з усімі катэгорыямі асабовага складу праводзіцца планавая дзяржаўна-прававая падрыхтоўка, у якую ўключаны пытанні гісторыі Беларусі.

Гістарычныя падзеі, выкладзеныя ў гэтых кнігах, носяць дыскусійны характар.

Мы не маем права ўцягваць асабовы склад у прапанаваную Вамі дыскусію. Правядзенне прэзентацыі вышэйназваных кніг у вайсковай частцы 25819 лічу нямэтазгодным.

**Начальнік управы**
**палкоўнік В. А. Сераштан.**

---

## У Надзеі Сармант юбілей!



Вядомаму ў сталіцы арганізатару дашкольнага выхавання беларускіх дзетак у іх роднамоўным асяроддзі, аўтару вучэбна-метадычных распрацовак для беларускамоўных дзіцячых садкоў, былому кіраўніку дашкольных устаноў, намесніцы на працягу 5 год старшыні Менскай гарадской рады ТБМ імя Ф.Скарыны споўнілася 60 год.

Калегі па сумеснай працы ў гарадской радзе шчыра віншуюць спадарыню Надзею з узростам спеласці, мудрасці. Мы зычым даўгалецця, плёну на ніве захавання і адраджэння беларускай мовы, шчасця ў выхаванні ўнукаў.

---

## Жанчыны і беларуская мова

Больш за 900 жанчын сабраліся ў Менску на I Усебеларускі жаночы Форум. З прывітальным словам да ўдзельніц Форуму звярнулася пісьменніца Святлана Алексіевіч. У першым дакладзе пісьменніца Валянціна Коўтун узняла пытанні нацыянальнай годнасці беларускіх жанчын, і гэты выступ задаў такі настрой паседжанню, што без усялякага прымусу і спецыяльных высілкаў у далейшых прамовах і дыскусіі ўсё шырэй пачала гучаць беларуская мова. Прычым адна з самых прыгожых прамоў на беларускай мове, з вершамі П. Макаля, прагучала з вуснаў Веры Буланавай, рускай па паходжанню.

А калі з прывітальнымі словамі да Форуму хацелі звярнуцца прадстаўніцы Украіны і пачалі з выбачэнняў, што вымушаны гаварыць па-руску, бо не ведаюць беларускай мовы, то з залы папрасілі іх выступаць па-украінску. І усе выдатна іх зразумелі.

Пра гістарычную неабходнасць жаночай грамадскай ініцыятывы гаварыла Святлана Бяс-тужава, пра постаці жанчын на тле палітычных падзей на Беларусі ў XX ст. – Ніна Стужынская, пра ўдзел жанчын у палітычным жыцці ў наш час – Валянціна Свяцкая, пра ролю жанчын у грамадстве – Галіна Дрэбезава.

**Марыя Пінчук.**

---



Няма роўных па вязанню сурвэтак майстру Ганне Васілеўне Бакшук у вёсцы Страго Дзятлаўскага раёна. Сваю калекцыю яна выстаўляе на многіх святах і конкурсах.

**Фота Наталлі Абллаэй, БелТА.**



# ІНБРЫДЫНГ У РУСКАЙ МОВЕ – МІНІМУМ СЛОЎ, МАКСІМУМ СЭНСАЎ

Ці можна навучыць кампутар думаць? Пытанне складанае і дакладнага адказу на яго пакуль што няма. Адно толькі добра вядома -- навучыць кампутар сведамай працы з інфармацыяй надта цяжка.

Першае і ці не самае складанае, што тут ёсць – гэта работа кампутара з паняццямі і катэгорыямі натуралёвай мовы.

Пад кожным словам натуралёвае мовы маюцца на ўвазе дастаткова пэўныя сувязі, асацыяцыі, сэнсы. Аднак высвятляецца, што ў розных мовах гэта адбываецца па-рознаму.

Цікавы факт надарыўся у працэсе навучання кампутара сведамай апрацоўцы інфармацыі. Спачатку, даволі доўга, гэтая праца ішла на рускай мове, але не мела аніякага поспеху. Што ні рабілі, але навучыць машыну "думаць" па-руску аказалася немагчымым. Калі ж мы паспрабавалі працаваць на беларускай мове, вынік праявіўся адразу. Пры не вельмі складаных алгарытмах апрацоўкі інфармацыі ў кампутара з'явілася магчымасць працаваць з сэнсам.

Аналіз усяго ходу працы паказаў, што ў рускай мове ёсць мноства слоў, якія маюць розныя значэнні і тлумачэнні. Адно і тое ж слова часта выражае розныя паняцці, катэгорыі і адносіны, якія набываюць той ці іншы канкрэтны сэнс толькі ў канкрэтнай сітуацыі. Чалавек, які змалку размаўляе па-руску, лёгка дае сабе рады, а вось кампутар, сутыкнуўшыся з гэткай блытанінай, "адмаўляецца" працаваць. Каб неяк пераадолець бар'ер неадназначнасці, даводзіцца моцна ўскладняць алгарытмы апрацоўкі інфармацыі.

Аднаму слову рускае мовы могуць адпавядаць розныя паняцці. **Прыклад 1.**

| **У рускай мове** | **У беларускай мове** |
|---|---|
| плотно | шчыльна<br>шчыгульна |
| питание | харчаванне<br>сілкаванне |
| расти | расці<br>гадавацца |
| угощать | частаваць<br>фундаваць |

**Прыклад 2.** Рускае слова **"осуществлять"**, залежна ад сэнсу, можа быць перакладзена ў беларускую мову па-рознаму.

Калі трэба падкрэсліць беспасярэдняе дачыненне таго, хто гаворыць, да працэсу стварэння ажыццяўлення, то лепш скарыстаць беларускае слова "здзяйсняць" (ад слова "дзейнічаць", напрыклад, "здзейсніў праект"). Але, калі трэба выказаць ажыццяўленне як працэс, які не залежыць ад волі і непасрэднага ўдзелу ў ім таго, хто гаворыць, дык тут больш дапасуецца слова "ажыццяўляць" (ад слова "жыццё", напрыклад, "задумы ажыццявіліся").

Такім чынам, у рускай мове ўжыванне слова "осуществлять" не мае адрознення ў такіх сэнсах, як беспасярэдняе дачыненне таго, хто гаворыць, да здзяйснянага дзеяння. Слухач мае ўзнаўляць канкрэтны сэнс слова толькі з кантэксту. У іншым выпадку зразуменне інфармацыі можа быць не такім, як трэба. Беларуская мова дае рады гэтай праблеме, бо рознаму сэнсаваму зместу паняцця "ажыццяўляць" адпавядаюць асобныя абазначэнні (словы).

**Прыклад 3.** Рускае слова "область". Яму ў беларускай мове адпавядаюць тры словы: "галіна", "абсяг" і "мяжа".

Слова "мяжа" выказвае рускамоўнаму паняцце "область, которая имеет ярко выраженную границу, рамки". Напрыклад, "у межах закону".

Слова "абсяг" выказвае паняцце "область, которую можно охватить своими возможностями (взглядом, делами и т.п.)". напрыклад, "абсяг дзейнасці фірмы".

Слова "галіна" выказвае паняцце "область, границы которой размыты, и охватить которую невозможно". Напрыклад, "галіна інфармацыйных тэхналогіяў".

На жаль, руская мова такіх адрозненняў не дае. У рускай мове слова "область" пераважна выказвае паняцце чагосці вялікага і бязмежнага. Той, хто кажа, мусіць дадаткова ўдакладняць ды і дапаўняць зыходную інфармацыю, каб не сказіць сэнс.

Прыклады можна доўжыць далей. Але вывад з іх вынікае адзін: руская мова сёння імкнецца да таго, каб абазначыць розныя паняцці адным і тым жа словам. Ярка выражана тэндэнцыя да спрашчэння, калі словы даўняга ўжытку напаўняюцца новымі катэгорыямі ды паняццямі.

Абазначэнне розных паняццяў адным і тым жа словам ёсць прыкметай няразвітай мовы ці той мовы, якая выраджаецца.

Ведама, жорстка ды быццам несур'ёзна гучыць абвінавачванне мовы Талстога і Даставўскага ў няразвітасці. Аднак назіраецца, што элементы выраджэння даволі моцна сталі выяўляцца толькі ў апошнія 80 гадоў. Магчыма, да гэтага спрычыніліся і гвалтоўныя рэформы мовы ды экспансія камуністычнага "навязу".

На беларускай мове падаваць і апрацоўваць сэнсы, стварыць кампутаровую сістэму сведамай апрацоўкі інфармацыі намнога прасцей. Апроч таго, значна большая эфэктыўнасць функцыянавання такой сістэмы (гл.S.Aliaksandrau, P.Fadzeeu, Multicontext automatic processing of large amounts of information. Principles, methods, initial algorithms; Miensk, 2000).

Акрамя вышэйзгаданых прыкладаў, на наш погляд, яшчэ адной прычынай выраджэння мовы, як і любой іншай складанай сістэмы, з'яўляецца выцясненне і прыгнечанне суісных альтэрнатываў – у дадзеным выпадку, іншых моваў.

Паспрабуем патлумачыць сваю думку на прыкладзе з біялогіі. З рускай мовай адбываецца тое самае, што і з самай элітнай раслінаю, калі яе ўвесь час скрыжоўваць з самой сабою – выраджэнне. Знішчэнне родначасных культур дзеля таго, каб дагадзіць нейкаму аднаму віду, няхай нават самаму распаўсюджанаму і ўраджайнаму, вядзе да адсутнасці перакрыжаванага апылення. Адбываецца інбрыдынг. Ад працяглага інбрыдынгу магчыма з'яўленне вырадкаў, знішчэнне прадуктыўнасці, жыццяздольнасці ці гібель асобінаў. Інбрыдынг непазбежна вядзе да выраджэння культуры. Дзеля таго, каб атрымаць здаровыя жыццяздольныя расліны, патрэбен генафонд, гэта значыць – розныя расліны. У мове такім генафондам з'яўляюцца іншыя мовы. Чым большы ўціск з боку рускай мовы на іншыя мовы, тым актыўней ідзе працэс выраджэння, у першую чаргу, рускай мовы.

Акрамя таго ёсць яшчэ адзін фактар, які ператварае сучасныя мовы з асэнсаваных у ілюстратыўныя. Гэта фактар уплыву сучаснай тэхнацывілізацыі. Сёння, каб выказаць эмоцыі і пачуцці, усё менш карыстаюцца апісаннем складаных паняццяў (як патрабавала літаратура XIX стагоддзя). Затое большая экспансія ілюстравальных відэарадоў (кіна- і відэа-прадукцыя замяняе кнігі ды чалавечыя зносіны).

Беларускай мове, можна сказаць, пашанцавала. З 1933 году ў якасці другой дзяржаўнай мовы ў Беларусі была ўведзена руская. Але фактычна вельмі хутка, каб дагадзіць Маскве, усё справаводства і міжасобасныя зносіны сталі гвалтоўна пераводзіцца на рускую мову. Беларуская мова, хоць і неафіцыйна, але была забаронена. Практычна не засталося беларускамоўных школ, зусім марная колькасьць кніг і газетаў выходзіла на беларускай мове. Знаходзячыся некалькі дзесяцігоддзяў пад забаронаю, мова захавалася ў выглядзе, здольным лёгка адлюстроўваць і апрацоўваць складаны сэнс (мова сэнсаванага працэсара).

Калі браць пад увагу пераважную сёння тэндэнцыю пераходу сучасных інфармацыйных тэхналогіяў на ўзровень асэнсавана апрацоўкі інфармацыі, то ў беларускай мовы з'яўляецца магчымасць пашырэння свайго ўжытку.

Зручнасць выкарыстання беларускай мовы ў асэнсаванай апрацоўцы інфармацыі, на наш погляд, можа дазволіць ёй стаць адной з базавых пры стварэнні інфармацыйных сістэмаў новага пакалення, якія працуюць з сэнсам.

*С. Аляксандраў, інжынер,*
*П. Фадзееў, інжынер.*

# "Сустракаюцца цяжкасці..." або аб чым змаўчалі настаўнікі на сваёй сходцы

А прымеркавана яна была, недзе ў сярэдзіне лета, да выбрання дэлегатаў на II з'езд настаўнікаў Беларусі. Заадно арганізатары сходкі вырашылі падвесці і сякія-такія вынікі работы школ Слуцка, а іх у горадзе 12. Як вы думаеце, на якой мове вялі гамонку дэлегаты, вылучаныя настаўніцкімі калектывамі? На роднай, беларускай? Як бы не так! І загадчык аддзела адукацыі гарвыканкаму М. Марачкоўскі, і яго намеснік Л. Гурба, і тры чыноўнікі з аддзела "рангам" ніжэй, і нешматлікія выступоўцы з спрэчках "шпарылі" на роднай мове – рускай. Не на абы якой там "трасянцы" з беларускай "падлівай", а на літаратурнай, быццам выраслі недзе на абсягах цэнтральнай Расіі. Нават у часы "развітога сацыялізму" на такіх сходках-канферэнцыях знаходзіліся, як правіла, два-тры выступоўцы, што гаварылі з трыбуны па-беларуску, не зважаючы на сцішаныя ўсмешкі ў зале, прэзідыюме. А тут такіх смелых не знайшлося. Ні аднаго! Не таму, што забылі родную мову, развучыліся на ёй размаўляць, хоць і такіх нямала – баяліся. Калі начальства дало "запеўку" на мове суседняй краіны, то, мадляў, чаго нам лезці ў пекла перадзе "бацькі"? Такая вось псіхалогія ў многіх нашых людзей, нават інтэлігентаў.

Аб чым жа гаварылі выступоўцы, што ўхвальвалі, на што скардзіліся? Спадарыня Л. Гурба, намеснік загадчыка аддзела адукацыі, засяродзіла ўвагу на здабытках лепшых школ горада, у прыватнасці, старэйшай у рэспубліцы гімназіі № 1, дзе, не сакрэт, шмат увагі надаецца развіццю лагічнага і творчага здумення вучняў, уведзена выкладанне харэаграфіі, працуюць выяўленчыя студыі і гістарычны тэатр, і нават школьная Акадэмія навук з дзесяццю прадметнымі лабараторыямі. Тут вывучаюць дзве замежныя мовы на паглыбленым узроўні. Але ж дакладчыца ні словам не абмовілася пра тое, што ў гэтай хвалёнай гімназіі пасля 95-га года, не засталося ні аднаго класа з беларускай мовай навучання, хоць там займаецца 824 вучні. Звялі іх дашчэнту яшчэ ў дзвюх сярэдніх школах – 2-й і 8-й, хоць у першай займаецца 469 вучняў, у другой – 1025. А між тым два гады таму ў 2-й было два беларускамоўныя класы, у 8-й – адзін. Цяпер ні аднаго! Хтосьці мусіць успомніў, як пры камуністах, са спасылкай на тое, што вакол гэтых школ размешчаны вайсковыя гарадкі з жылымі кварталамі, ужо былі "вывелі" з ужытку беларускую мову нават, як прадмет! Толькі ў кароткую пару нацыянальнага адраджэння 90-х гадоў у тых школах скляліся і нядрэнна працавалі беларускамоўныя класы. На жаль, не доўга, у чым ёсць нямалая віна і многіх бацькоў, хто адцураўся матчынай мовы і пагарджае ёю адкрыта.

На сходцы дырэктар СШ № 8 Т. Трусава дакладчыца нават ухваліла за тое, што школа нядрэнна працуе з музычна-харавым ухілам, а сусветная мастацкая культура вывучаецца з 5-га класа. Тое, што дзеці, у пераважнай большасці беларусы па нацыянальнасці, выхоўваюцца ў адрыве ад беларускай культурнай спадчыны, мовы – для большасці настаўнікаў "да лямпачкі".

Толькі адзін раз, у выступленні арганізатара аддзела адукацыі В.Хатэнка, "праскользнула" заклапочанасць тым, што "сустракаюцца цяжкасці ў першых класах пры засваенні прадметаў "Беларуская мова" і "Беларускае літаратурнае чытанне". І не дзіва! Калі ў 20 дзіцячых садках-яслях горада з рускай мовай навучання займаецца 2782 дзяцей у 145 групах, то з беларускай мовай усяго 471 у 27 групах, ды і тыя ёсць толькі ў сямі садках-яслях. Палова гэтых дзетак наведвае садкі №№ 12 і 16 – па 171 і 125 нямаўлят у кожным. І не выпадкова: садкі размешчаны ў "акалотку" адзінай у горадзе беларускамоўнай школы №12, дзе дырэктарам працуе А.Самахвалаў, дарэчы, сібірак родам, рускі, але нястомны прыхільнік ідэі адраджэння беларускай мовы, чаго нельга сказаць аб некаторых яго калегах-беларусах. З тых 16 груп, што захаваліся ў двух садках, дзеці прыходзяць у падрыхтоўчыя класы з нядрэнным валоданнем роднай мовай.

Звернемся цяпер да статыстыкі сітуацыі з беларускамоўным навучаннем у Слуцку, прадастаўленай аддзелам адукацыі гарвыканкаму.

| **Школы** | **Руская мова навучання** | | **Беларуская мова навучання** | |
|---|---|---|---|---|
| | **К-ць класаў** | **К-сць вучняў** | **К-сць класаў** | **К-сць вучняў** |
| Гімназія №1 | 37 | 824 | - | - |
| СШ № 2 | 22 | 469 | - | - |
| СШ № 4 | 7 | 113 | 12 | 233 |
| СШ № 5 | 21 | 494 | 4 | 112 |
| СШ № 6 | 31 | 768 | 16 | 420 |
| СШ № 7 | 42 | 328 | 12 | 299 |
| СШ № 8 | 42 | 1025 | - | - |
| СШ № 9 | 17 | 368 | 6 | 124 |
| СШ № 10 | 48 | 1243 | 6 | 173 |
| СШ № 11 | 36 | 918 | 28 | 777 |
| СШ № 12 | 2 (11-я кл.) | 36 | 49 | 1190 |
| СШ № 13 | 23 | 583 | 13 | 360 |
| Усяго: | 301 | 7169 | 146 | 3588 |

Як бачна, у горадзе захавалася адзіная, годная ухвалы, беларускамоўная "выспа", дзе ў 49 класах на матчынай мове займаюцца 1190 дзяцей. І шкада, што дырэктара той СШ № 12 А.Самахвалава не выбралі дэлегатам на II з'езд настаўнікаў Беларусі. Туды паедуць дырэктар аднаго з прафесійна-тэхнічных вучылішчаў, чыноўнік з аддзела адукацыі гарвыканкаму і два настаўнікі-выкладчыкі нямецкай мовы і фізкультуры. Сумняваюся, што на тым з'ездзе хтосьці з іх заб'е трывогу з высокай трыбуны, што родная мова, а разам з ёю і ўся нацыянальная культура апынуліся на краі бездані – як і ў змрочныя часы царызму і таталітарызму, калі народ наш не меў сваёй дзяржаўнасці.

*Мікола Кутнявіцкі.*
*г. Слуцк.*





### АДКАЗ С. ЗАПРУДСКАМУ

на адрасаваны мне адкрыты ліст ("Наша слова" за 15. 8. 2001 г.)

**Паважаны Сяргей Мікалаевіч!**

Паколькі Ваша ультыматыўнае патрабаванне (складзі свой уласны праект Стратэгіі мовы, бо інакш...) я прыняць не магу, у гэтым няма патрэбы (сутнасць маёй канцэпцыі – у "Законе аб мовах", прынятым у студзені 1990 года), і даказваць Вам далей, што мы не валійцы, не бачу сэнсу, мне нічога не застаецца, як капітуляваць і пагадзіцца з Вашым грозным "бо інакш", а менавіта: я дазваляю Вам думаць, што мною, цытую Вас, "кіруюць не столькі меркаванні карысці справы, колькі нешта іншае". Канешне ж, нешта іншае, а не карысць справы – не клопат пра лёс нашае мовы! Тут вы, як гэта кажуць, не ў брыво, а ў вока папалі. Шкада толькі, што ў Вас не хапіла смеласці сказаць уголас, што яно ў мяне – тое "іншае". Чытачам "Нашага слова", сябрам ТБМ было б цікава пачуць. Ну, але нічога, гэтая смеласць яшчэ да вас прыйдзе, яшчэ скажаце. Асабліва калі нам, беларусам, не ўдасца адстаяць незалежнасць Бацькаўшчыны, і Беларусь стане такім жа прывідным нацыянальна-аўтаномным краем, як Уэльс.

**З найлепшымі зычэннямі**
**Ніл Гілевіч.**
2001, жнівень.

## "Гарыць агмень ТБК"

Калі падвесці вынікі лета ў дзейнасці Таварыства беларускай культуры ў Вільні, то праца "кіпела", шмат было цікавага, а былі і сумныя здарэнні – украдзена самая каштоўная табліца П. Сергіевічу, В. Ластоўскаму. У ліпені 7 чалавек з ТБК удзельнічалі ў працы III з'езду беларусаў Свету, трое выступілі з дакладамі, чатыры ўвайшлі ў вялікую раду Бацькаўшчыны. Прыязджалі з Магілёва з рыцарскага клуба "Барысфен", а нядаўна ў ТБК гасціла купка моладзі, якая "дала" канцэрт бардаўскай песні. Адбылася сустрэча з старшынёй галоўнай Управы Згуртавання беларусаў Англіі Алёнай Міхалюк, больш тыдня яна гасціла ў Вільні, знаёмілася з мясцінамі Фр.Скарыны, М.Багдановіча, наведала магілкі Росы і Ліпоўку. У Вільні яна ўпершыню, здзейснілася жыццёвая мара. Сустракаліся з кіраўніцтвам ТБК старшыня ТБМ Алег Трусаў і яго наменснік Людміла Дзіцэвіч, прыязджалі беларусы з Польшчы і Менску, адзначылі 65 годдзе Генадзя Бураўкіна.

Абмеркавалі план мерапрыемстваў на восень. Хай ніколі не згасае агмень ТБК і дорыць цяпло, хто да яго далучыцца.

**Леакадзія Мілаш.**

## Музей Францішка Багушэвіча ў Літве просіць дапамогі

Шаноўнае спадарства!

На радзіме Ф.Багушэвіча – Віленшчыне – (у памяшканні Савічунскай бібліятэкі Рукойнскай Сянюніі Віленскага р-на Літвы) сіламі ТБМ імя Ф.Скарыны Віленскага Краю арганізуецца Літаратурны музей Ф. Багушэвіча, дзе кожны год у дзень яго народзін будзе праводзіцца Свята паэзіі.

Просьба літаратараў, навукоўцаў і ўсіх грамадзян прысылаць у наш адрас матэрыялы, дакументы, кніжкі і г.д., звязаныя з дзейнасцю паэта, гісторыяй нашай Бацькаўшчыны...

Чакаем дапамогі.

Старшыня ТБМ імя Ф. Скарыны Віленскага Краю
Ю. Гіль.

Наш адрас:
Vilnius m,
q-ve Architekty 23-79,
Gil Juri.

Альбо перадаваць з аказіяй сп. Нюнька Х. (Таварыства бел. культуры).

## ТАНЕЦ ЯЕ ЖЫЦЦЯ



Святлана Корсак (на здымку) танцуе з дзяцінства. Яшчэ ў школе яна была лаўрэатам конкурсаў танцу. Закончыўшы харэаграфічнае аддзяленне Пінскай навучальні мастацтваў, пачала працаваць у танцавальнай групе Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору імя Г.І. Цітовіча.

**Фота Валерыя Бысава, БелТА.**

Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы

# 2002 год – юбілейны год народнага паэта Беларусі Янкі Купалы (1882 – 2002)

*З добрых думак, што мы кінем*
*На сівым дзірване,*
*Будзе ўнукам нашым жніва, -*
*Доля, панаванне.*

*Янка Купала.*

**Дарагія сябры!**

**Віншуем Вас з пачаткам новага навучальнага года.**

**Плёну Вам, здзяйсненняў, здароўя і аптымізму.**

**Няхай жыве ў сэрцах Вашых святло Купалавага слова і надзея на будучыню!**

**Калектыў музея.**

## *Музей прапануе:*

### Экскурсіі

• "Жыццё і творчасць Янкі Купалы" (аглядавая).
• "Янка Купала і яго творчасць у мастацтве" (аглядавая).
• "Дзіцячыя гады Яся Луцэвіча" (тэматычная).
• "20–30-ыя гады ў жыцці і творчасці Янкі Купалы" (тэматычная).

### Лекцыі

• "Жыццё і творчасць Янкі Купалы".
• "Вобраз Янкі Купалы і яго творчасць у беларускім мастацтве".
• "Лаўрэаты прэміі Янкі Купалы".
• "Купала і Менск".
• "Паэзія Купалаўскіх мясцін".
• "Заслаўе".
• "Папярэднік Янкі Купалы ў беларускай літаратуры"
• "Васіль Быкаў – творчы паслядоўнік Купалаўскіх ідэй і традыцый"
• "Сімволіка вобразаў паэм Янкі Купалы "Адвечная песня", "Сон на кургане"
• "Купала і тэатр".
• "Янка Купала і Багдановіч".
• "Янка Купала і кніга".
• "Паэт і Радзіма".
• "Ці маем мы права выракацца роднай мовы".
• "Маці мая, Радзіма, шчырае слова сказаць дазволь... (Жыццёвы і творчы шлях П. Панчанкі)".

### Музейна-педагагічныя заняткі

• "Падарожжа ў мінулае" (цыкл заняткаў для дзяцей старэйшага дашкольнага ўзросту):
1. "Як на свет радзіўся Янка".
2. "Ясь і кніжкі".
3. "Ясь і музыка".
4. "Янка Купала – дзецям".
5. "Цёця Уладзя".
6. "Прывітанне, музей!" (занятак у залах музея).

• "Дзень добры, музей!" (цыкл заняткаў для дзяцей малодшага школьнага ўзросту)
1. "Дзень добры, музей" (занятак на экспазіцыі).
2. "Радавод Янкі Купалы".
3. "Што такое музейны помнік" (2 заняткі).
4. "Стары фотаздымак".
5. "Арыгінал – копія".

### Перасоўныя выставы

• "Янка Купала – Прарок Адраджэння".
• "Паэмы Янкі Купалы".
• "Беларусь – маё сэрца".
• "Жыццё і творчасць Максіма Гарэцкага"

### Адрасы музея і філіялаў:

Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы 220030 г. Менск вул. Я. Купалы, 4 т. 227-78-66, 227-73-54.

Філіял "Вязынка" 222322 Мінская вобл., Маладзечанскі р-н п/а Радашковічы, в. Вязынка т. 5-030-840 (з Мінска).

Філіял "Яхімоўшчына" 222312 Мінская вобл., Маладзечанскі р-н п/а Палачаны, в. Яхімоўшчына т. 8-273-21-5-49.

Філіял "Акопы" 223124 Мінская вобл., Лагойскі р-н п/а Янушкавічы, в. Харужанцы т. 8-274-5-74-19.

Філіял "Ляўкі" 211038 Віцебская вобл., Аршанскі р-н п/а Копысь т. (8-021) 61-987, (8-021) 61-966.

Паслугі платныя.



### Мая малітва

Я буду маліцца і сэрцам, і думамі,
Распятаю буду маліцца душой,
Каб чорныя долі з мяцеліцаў шумамі
Ўжо больш не шалелі над роднай зямлёй.

Я буду маліцца да яснага сонейка,
Няшчасных зімой саграваць сірацін,
Прыветна па збожных гуляючы гонейках,
Часцей заглядаці да цёмных хацін.

Я буду маліцца да хмараў з грымотамі,
Што дзіка над намі гуляюць не раз,
Каб жаль над гаротнымі мелі бяднотамі,
Градоў, перуноў не ссылалі падчас.

Я буду маліцца да зорак і жаліцца,
Што гасяць сябе надта часта яны,
Бо чуў, як якая з неба з іх зваліцца,
З жыцця хтось сыходзе на вечныя сны.

Я буду маліцца да нівы ўсёй сілаю,
Каб лепшаю ўродай плаціла за труд,
Збагаціла сельскую хату пахілую,
Надзеі збытымі ўбачыў наш люд.

Я буду маліцца і сэрцам, і думамі,
Распятаю буду маліцца душой,
Каб чорныя долі з мяцеліцаў шумамі
Не вылі над роднай зямлёй, нада мной.

5 ліпеня 1906 *Янка Купала.*





А. Талерчык

# ЯК МІХАІЛ МУРАЎЁЎ ВЕШАЎ МІХАЛА ВАЛОВІЧА

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

5 лістапада 1833 года следства па іх закончылася, і следчая камісія вырашыла: Язэпа Яцкевіча – за далучэнне да Валовіча, вяртанне на радзіму з "брадзяцкімі намерамі", напад на пошту – прысудзіць да смерці праз чацвертаванне; Аскерку і Шабанскага – "за свядомае ўзяцце пад апеку валацуг" прысудзіць да смяротнага пакарання; доктара Нагумовіча – "за лячэнне Валовіча, пра якога ведаў, хто ён такі, а таксама за тое, што будучы праінфармаваным аб паўстанцах, якія быццам былі накіраваны ў Пецярбург для забойства цара, аб чым ён распускаў чуткі сярод сваіх знаёмых" – засудзіць да чацвертавання; святара Якутовіча, у сувязі з недастатковасцю доказаў яго віны, было вырашана вызваліць ад пакаранняў.

Затым справа разглядалася Казловым і Мураўёвым. Апошні рашэнне суда палагодзіў. Ён прапанаваў Яцкевіча пазбавіць шляхецтва і адправіць у Сібір на катаргу, а маёнтак канфіскаваць; Шабанскага выслаць у асобы каўказскі корпус; Аскерку паўторна адправіць у ссылку ў далёкую расійскую губерню. Выдаткі, звязаныя са злаўленнем Валовіча, у колькасці 4193 рублі і 18 капеек утрымаць з Аскеркі.

7 лістапада Даўгарукаў зацвердзіў прысуд у рэдакцыі Мураўёва, за выключэннем пакаранняў, якія тычыліся Аскеркі і Нагумовіча. Аскерку вырашана было пакінуць дома, устанавіць над ім тайны нагляд паліцыі, а выдаткі, звязаныя са зловам Валовіча, усё ж аднесці за яго кошт. Нагумовіча пастанаўлялася выслаць у Табольскую губерню з дачай яму гадавога тэрміну на продаж маёнтка.

Што падзейнічала на Даўгарукава, які змягчыў пакаранне Аскерку і Нагумовічу?

Віленскі губернатар Даўгарукаў любіў бываць у ліцвінскіх дамах на балях. На яго мелі значны ўплыў мясцовыя жанчыны-шляхцянкі. Вядома, што не адзін вязень атрымаў палёгку, дзякуючы іх заступніцтву. Жонка Аскеркі (сястра Валовіча) была багатай дамай і належала да таго кола, якое мела ўплыў на губернатара. Пэўна, такое заступніцтва спрыяла Аскерку пазбавіцца далёкай ссылкі.

Па змякчэнні пакарання Ізідара Нагумовіча былі, напэўна іншыя матывы, пра якія варта паведаміць падрабязней.

Браты Нагумовічы, старэйшы Лявон (1792-1853 г.) і малодшы Ізідар (1800-1853гг.), сталі вядомымі беларускімі лекарамі, якія ўнеслі значны ўклад у развіццё медычнай навукі і практыкі. Нарадзіліся ў Вільні ў шляхецкай сям'і. Абодва скончылі медычны факультэт Віленскага універсітэта. Жыццёвы і навуковы шлях таленавітага доктара Лявона Нагумовіча быў вельмі спрыяльным. У 20 гадоў ён стаў доктарам медыцыны. У 1813 годзе абраны членам-карэспандэнтам Парыжскай акадэміі навук. Пазней быў абраны ганаровым членам Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі. Ён з'яўляўся заснавальнікам вядомай суполкі рускіх лекараў у Пецярбургу.

Зусім іншы лёс напаткаў ягонага брата Ізідара. Калі ён вучыўся ў Віленскім універсітэце, курс гісторыі ім чытаў будучы ідэолаг польскага паўстання Іахім Лелявель, пад уздзеяннем якога ён са спачуваннем стаў ставіцца да нацыянальна-вызваленчай барацьбы прыгнечаных Расіяй народаў. У 1825 годзе ён, як і Валовіч, закончыў універсітэт, затым абараніў доктарскую дысертацыю, а ў 1827 годзе быў накіраваны лекарам у Самгаіцкі гранадзёрскі полк у Жамайцію. Тут, падчас лістападаўскага паўстання 1830 года, чацвёра маладых афіцэраў забілі свайго ротнага камандзіра і перайшлі на бок паўстанцаў. Следства ўстанавіла, што да гэтай справы меў нейкае дачыненне Нагумовіч, за што ён быў звольнены з войска. Нагумовіч пасяліўся ў Ваўкавыску і займаўся прыватнай лекарскай практыкай. Вось тады яго запрасіў Шабанскі паставіць на ногі моцна хворага Валовіча, добра ведаючы яго прыхільнасць да патрыётаў. На судзе гэта было выяўлена і вось як ацэнена камісіяй вайсковага суда ад 25 ліпеня 1833 года: "Доктор медицины Исидор Нагумович оказался также виновным не только в совершеном знании о всех злонамеренных замыслах преступников Волловича и Яцкевича, лечении из них первого с 20 марта до самой Пасхи, но сведущ от них же, что семь человек эмиссаров отправились в Санкт-Петербург с намерением покуситься на жизнь Государя Императора и о том никому не донесли". Далей паведамлялася, што за "...неблагонамеренные его поступки – комиссия Военного Суда, соображая преступления сии с законами, приговорила... доктора Нагумовича ... четвертовать". Вось "мураўёўская" гуманнасць за тое, што доктар сумленна вылячыў хворага чалавека, гэтага доктара трэба жыўцом сякераю пасекчы на кускі.

Пэўна, у лёс малодшага брата ўмяшаўся ўплывовы старэйшы брат, і кара была зменшана: яго панізілі ў званні да фельчара і выслалі ў Вятку пад паліцэйскі нагляд. Там ён прабыў чатыры гады, потым зноў, відаць, не без удзелу брата, быў памілаваны і атрымаў дазвол на пасяленне ў маёнтку жонкі ў Драгічынскім павеце. У пачатку 1839 года ўладкаваўся лекарам у Гарадзенскую гарадскую бальніцу. Але хутка пераехаў у мястэчка Друзгенікі, якое перад гэтым атрымала статус курорта.

Малады курорт яшчэ не меў навуковых рэкамендацыяў па лячэнню хваробаў сваімі водамі. Нагумовіч вырашыў гэтую праблему і ў 1841 годзе выдаў на французскай і рускай мовах сваю навуковую працу "Способ лечения минеральными водами в Друсениках". Там навукова абгрунтаваў, якія хваробы і якім чынам можна лячыць друскенікімі водамі. Памёр Ізідар Нагумовіч рана, у 1842 годзе, і, магчыма, пахаваны на гарадзенскіх могілках.

Сымон БАРЫС

# Чорныя дні і страты Беларусі

У гісторыі кожнага народа ёсць памятныя дні. Адны з іх – святочныя – у гонар радасных падзей, іншыя – жалобныя або чорныя, як памяць пра трагічныя падзеі. Варта памятаць як адныя, так і другія.

Калі святочнымі днямі мы можам ганарыцца, бо гэта дні нашай мужнасці, дык чорныя дні мы мусім не забываць дзеля таго, каб ушанаваць тых, хто падчас трагедый пацярпеў або загінуў. Памятныя дні радасных падзей мы больш-менш ведаем, а вось пра дні смутку мы не памятаем, бо ў нашай гісторыі пра іх доўгі час амаль што нічога не гаварылася. Таму лічу патрэбным прапанаваць увазе чытачоў "Нашага слова" хроніку чорных дзён для Беларусі.

**Хроніка пакут і страт на Беларусі**

**Каля 975 г.** – захоп Полацка наўгародскім князем Уладзімірам, забойства ім полацкага князя Рагвалода, яго жонкі і сыноў ("Крывавае вяселле" Рагнеды ў Полацку).

**03.03.1067 г.** – адбылася бітва на рацэ Нямізе паміж войскамі кааліцыі князёў Кіеўскай Русі (Яраславічы) і войскамі полацкага князя Усяслава Брачыславіча "Чарадзея". Спалены г. Менск.

**10.07.1067 г.** – здрадніцкі захоп полацкага князя Усяслава Брачыславіча на беразе Дняпра каля Оршы князямі Кіеўскай Русі Яраславічамі.

**1119 г.** – кіеўскі князь Мсціслаў Уладзіміравіч захапіў Менск, паланіў менскага князя Глеба Усяславіча.

**1127 г.** – кіеўскі князь Мсціслаў Уладзіміравіч захапіў і спаліў Лагойск, Ізяслаў і Полацк.

**1129 г.** – кіеўскі князь Мсціслаў Уладзіміравіч захапіў і выслаў у Канстанцінопаль (Візантыю) 6 князёў полацкай дынастыі Усяславічаў (паводле некаторых звестак, некаторыя з іх вярнуліся на радзіму толькі ў 1140 г.).

**1230 г.** – страта Полацкам г. Герцыка (Герсік), які перайшоў пад уладу рыжскага біскупа. Прыкладна ў гэты час Полацкае княства страціла і Кукейнас.

**12.08.1399 г.** – параза войск Вялікага княства Літоўскага на чале з Вітаўтам у бітве супраць войск Залатой Арды на чале з ханамі Цімур-Кутлукам і Едыгеем на рацэ Ворскле (прыток Дняпра на тэрыторыі Украіны). У гэтай бітве загінуў апошні полацкі князь Андрэй Альгердавіч.

**Верасень 1432 г.** – у выніку змовы літоўскіх баяр Свідрыгайла скінуты з вялікакняскага пасада Вялікага княства Літоўскага.

**01.09.1435 г.** – паражэнне войск Свідрыгайлы ў бітве пад Вількамірам (цяпер у Літве).

**14.07.1500 г.** – паражэнне войск Вялікага княства Літоўскага на чале з гетманам найвышэйшым Канстанцінам Астрожскім у бітве пад Дарагабужам (на рацэ Вядрошы) супраць маскоўскіх войск. К. Астрожскі трапіў у палон, з якога ўцёк у 1507 г.

**01.08.1514 г.** – захоп Смаленска войскамі маскоўскага князя Васіля III.

**01.07.1569 г.** – адбылося заключэнне Люблянскай уніі, якая абмяжоўвала суверэнітэт Вялікага княства Літоўскага, утварылася канфедэратыўная дзяржава Рэч Паспалітая. На шчасце, Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г. значна пашырыў правы беларуска-літоўскай дзяржавы.

**12.11.1623 г.** – забойства віцебскімі бунтаўшчыкамі полацкага ўніяцкага архіепіскапа Ясафата Кунцэвіча.

**20 (30).05.1654 г.** – пачалася 13-гадовая вайна паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай за Украіну і Беларусь. У выніку вайны, эпідэміяў хвароб за гэты час Беларусь страціла кожнага другога жыхара (1,4 млн.чалавек з 2,9 млн.), а таксама частку сваіх этнічных зямель. У Маскоўю вывелі болей за 300 тысяч палонных беларусаў. Крывавае 20-годдзе з 1648 па 1667 год у беларускай гісторыі называецца "патопам".

**29.08.1696 г.** – прынята пастанова Усеагульнай канферэнцыі саслоўя Рэчы Паспалітай аб складанні ў Вялікім княстве Літоўскім усіх рашэнняў толькі на польскай мове. з гэтага часу беларуская мова стала выцясняцца з афіцыйнага ўжытку пры складанні дзяржаўных актаў.

**07.(18).06.1708 г.** – шведы занялі г. Менск.

**01.05.1710 г.** – адступаючыя войскі Пятра І узарвалі ўніяцкі сабор Святой Сафіі ў Полацку. Гэта здарылася ў час Паўночнай вайны паміж Расіяй і Швецыяй (1700 – 1721 гг.), якая вялася на тэрыторыі Балтыі, Беларусі і Украіны. У выніку гэтай вайны загінуў кожны трэці беларус (насельніцтва Беларусі скарацілася з 2,2 млн. чалавек да 1,5 млн.).

**25.07.(05.08). 1772 г.** – Першы падзел Рэчы Паспалітай. У выніку яго ўсходняя частка Беларусі адышла да Расійскай імперыі.

**25.09.1793 г.** – Гарадзенскі (надзвычайны) сойм Рэчы Паспалітай быў акружаны рускімі войскамі і вымушаны згадзіцца з умовамі тайнага руска-прускага пагаднення ад 12 (23) студзеня 1793 г. і дэкляраваных актаў аб акупацыі вызначаных тэрыторый ад 27 сакавіка 1793 г. – аб Другім падзеле Рэчы Паспалітай. У выніку цэнтральная частка Беларусі была далучана да Расійскай імперыі.

**16.10.1793 г.** – заключаны прымусовы "саюзны" дагавор Рэчы Паспалітай з Расійскай імперыяй, паводле якога ўрад Расіі меў права ўводзіць і трымаць свае войскі на тэрыторыі Рэчы Паспалітай.

**29.09.(10.10).1794 г.** – паражэнне войскаў Т. Касцюшкі пад Мацяёвіцамі і ўзяцце Касцюшкі ў палон рускімі войскамі генерал-лейтэнанта І. Ферзена.

**13.(24).10.1795 г.** – падпісанне ў Санкт-Пецярбургу канвенцыі прадстаўнікамі Расіі, Аўстрыі і Прусіі аб Трэцім падзеле Рэчы Паспалітай. У выніку Вялікае княства Літоўскае перастала існаваць як дзяржава. Уся тэрыторыя Літвы – Беларусі была далучана да Расійскай імперыі, дзе Беларусь не мела нават аўтаноміі.

**25.11.(па новым стылі) 1795 г.** – кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў Аўгуст Панятоўскі адмовіўся ад трона на карысць Кацярыны ІІ.

**12(24). 06.1812 г.** – пачалася вайна паміж Францыяй і Расіяй. У гэтай вайне беларусы ўдзельнічалі ў войсках абодвух бакоў. Тады Беларусь страціла каля аднаго мільёна чалавек – кожнага пятага свайго жыхара.

**1820 г.** – закрыццё царскімі ўладамі Полацкай акадэміі.

**1832 г.** – стварэнне пры расейскім урадзе "Асобага камітэта па справах заходніх губерняў" з мэтай русіфікацыі Беларусі.

**01.(13).05.1832 г.** – закрыццё Віленскага універсітэта.

**1836 г.** – паводле царскага ўказа ва ўсіх навучальных установах Беларусі ўводзіцца выкладанне на расейскай мове.

**12.(24).02.1839 г.** – Полацкі царкоўны сабор скасаваў Берасцейскую царкоўную унію 1596 г.

**25.06.(07.07).1840 г.** – падпісаны царом Мікалаем І указ сената аб увядзенні на Беларусі расейскага заканадаўства і рускай мовы ва ўстановах.

**18.(30).07.1840 г.** – расійскі імператар Мікалай І падпісаў указ Сената аб абароне ўжываць у афіцыйных дакументах назвы тэрыторый "Белоруссия", "Литва" і найменаваць далей "Северо-Западный край" (Паўночна-Заходні край). Так стала называцца наша краіна Беларусь.

**02.(14).08.1840 г.** – скасаванне дзейнасці Статута Вялікага княства Літоўскага 1588 г.

**1859 г.** – забарона выкарыстання ў беларускім друку лацінскага шрыфту.

**10(22).03.1864 г.** – пакаранне смерцю К. Каліноўскага ў Вільні, на Лукішскай плошчы.

**1864 г.** – забарона размаўляць у навучальных установах Беларусі на беларускай мове.

**1867 г.** – рускі цар Аляксандр ІІ забараніў ужыванне беларускай мовы ў друку.

*(Працяг у наступным нумары)*

Станіслаў Суднік

# Сейлавічы: крэскі на белай пляме

## Спроба тапанімічна-этнаграфічнага эсэ

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

Артыкул пра Сейлавічы да слоўніка напісаў славуты беларускі пісьменнік, гісторык, этнограф Аляксандр Ельскі. Усяго ён напісаў для гэтага слоўніка больш 10 000 артыкулаў.

**Siełowicze,** wś poradziwiłłowska, pow. słucki, w 3 okr. pol. kopylskim, gm. Howiezna, przy gośc. z mka Mohilny do Nieświeża, ma 119 osad pełnonadziałowych; cerkiewka; grunta szczerkowe, urodzajne. *A. Jel.*

**Артыкул А. Ельскага ў "Геаграфічным слоўніку..." пра Сейлавічы**

Тэкст артыкула:

***"Сейлавічы, вёска парадзівілаўская (былая радзівілаўская), павет Слуцкі, у 3 акрузе паліцэйскай Капыльскай, гміны Гавязна, пры гасцінцы з маёнтка Магільна да Нясвіжа, мае 119 двароў поўнанадзелавых; цэркаўка; землі падзолістыя, ураджайныя".***

З гэтага запісу ў 5 радкоў слоўніка мы маем даволі шмат інфармацыі. Названа толькі вёска Сейлавічы, а засценак не названы. Але ў вёсцы названа 119 двароў, у той час калі на карце 1929 года паказана толькі 114 двароў. У Першую сусветную вайну і рэвалюцыю ды польска-савецкую вайну Сейлавічы не гарэлі, таму за гэты час хатаў павінна было прыблізна падвоіцца. У той жа час названа цэркаўка, а паміж вёскай і цэркаўкай якраз і ляжыць засценак. Таму трэба меркаваць, што 119 двароў было разам і ў вёсцы, і ў засценку.

Назва вёскі напісана па-польску **Siełowicze**. Як бачна ў назве яшчэ няма ***й***, што яшчэ раз сведчыць на карысць паходжання назвы ад словаў ***сяло, сяліцца***. Пра гэта і казалася пры разглядзе паходжання назвы ў папярэднім раздзеле.

*Дарэчы аналіз тапонімаў прыведзеных у слоўніку дае наступнае. Там названы чацвёра Сялявічаў, двое Сялевічаў, двое Селаўцаў, адны Селавічы, адна Селаўшчына. Слоўнік пацвярджае наяўнасць рэальных населеных пунктаў, назвы якіх маюць формы, атрыманыя намі віртуальна пры спробе вывесці назву вёскі ад слова* ***сяло****. Асабліва важна наяўнасць тапоніму Селаўцы. Нагадаю, што менавіта так называюць сябе жыхары Сейлавіч.*

Аднясенне Сейлавіч да Слуцкага павету выклікана наступным. Пасля далучэння Беларусі да Расеі ўзнікла неабходнасць у аслабленні Радзівілаў, ліквідацыі Нясвіжскага княства і раздрабленні радзівілаўскай шляхты. Сталіца Радзівілаў Нясвіж быў абвешчаны заштатным горадам, г. зн. Нясвіж не станавіўся цэнтрам павету. Слуцк быў куплены царскім скарбам у Радзівілаў. Сённяшні Нясвіжскі раён быў падзелены на дзве часткі. Паўднёва-ўсходняя частка адышла да Слуцкага павету, а паўночна-заходняя -- да Наваградскага. Такім чынам Сейлавічы трапілі ў Слуцкі павет.

Да пачатку 20-га стагоддзя большая частка шляхты і ўсе сяляне жылі ў вёсцы. Вёска цягнулася ў адну лінію. Пасёлкаў не было. Як мы ўжо ведаем у вёсцы была царква. Звестак пра школу не захавалася, хутчэй за ўсё яе не было. Дзяцей вучылі па хатах, прынамсі па хатах вучылі шляхочых дзяцей. Асаблівасцю той вучобы можна назваць тое, што дзеці мелі дваякія падручнікі. Калі ехаўураднік даставалі адны, мабыць рускія, калі ехаў ксёндз выцягвалі іншыя, мабыць польскія.

Законам ад 9.11.1906 г. пачалася Сталыпінская рэформа і выхад на хутары.

Пад падзел на хутары падпадаў і Сарвітут. Я ўжо згадваў пра бунт звязаны з Сарвітутам. Там былі дапушчаны невялікія недакладнасці. Сёння я маю на руках запісы зробленыя ў 1976 ці 1977 годзе. Таму можна сказаць пра гэта больш падрабязна.

Сейлавіцкі сарвітут плошчай у 200 га быў выдзелены князем Радзівілам сейлавіцкім сялянам у 1861 годзе пры скасаванні паншчыны. Гэтыя землі былі пад лесам і хмызнякамі. Сарвітут выдзяляўся пад пашу, але лес заставаўся княжацкім.

Пасля абвяшчэння хутароў князь вырашыў выразаць лес. Сяляне падагрэтыя рэвалюцыяй пажадалі пакінуць лес сабе. Яны абвязалі свой лес саломай і пачалі пільнаваць. Калі з'явіліся княжацкія пільшчыкі, сяляне прагналі іх. Было гэта не ў 1906, а 13 снежня 1907 года, пра што мецца запіс на карце ў Слуцкім краязнаўчым музеі, якая адлюстроўвала рэвалюцыйныя падзеі. (Нагадаю - Сейлавічы належалі да Слуцкага павету).

Для ўсмірэння бунтаўшчыкоў былі пасланыя салдаты. Быў нават дадзены загад страляць. Але салдаты страляць адмовіліся. Тым не менш сялян разагналі. Лес выразалі.

Княжацкі ляснік падказаў завадатараў. Былі арыштаваныя і асуджаныя на 1 год зняволяння:

**Навоша Сцяпан,**
**Гушча Ульяна,**
**Навоша Варвара,**
**Таратута Казімір.**

У той час, калі я запісваў усё гэта яшчэ можна было разабрацца, чые гэта дзяды і бабы. Зараз гэта зрабіць даволі цяжка.

1-ю сусветную вайну сейлаўцы перажывалі па рознаму. Сама вёска немца не бачыла і ў бежанцы не краналіся. З пачаткам вайны ўсе ваеннаабавязаныя былі мабілізаваныя і ўрэшце рэшт аказаліся на Румынскім фронце. Шмат хто там і загінуў. У прыватнасці загінуў першы муж маёй бабулі Адась Сярпінскі. Потым ацалелыя аказаліся ў беларускіх частках.

Вярталіся адтуль па рознаму. Брат маёй бабулі па бацьку Антось Мысліцкі з Пасякоў зайшоў дадому, узяў нейкія рэчы і пайшоў да Калчака, больш пра яго не чулі. Мой дзед па маці Адась Некраш вярнуўся з нейкай бальшавіцкай кантычкай і веданнем на памяць "Інтэрнацыяналу".

Тыя сейлаўцы, якія не падпалі пад мабілізацыю мусілі адбываць вайсковую павіннасць у абозах. Калі сказаць папраўдзе, то паміраць за веру, цара і "ацечаства" ніхто не рваўся, таму з абозаў уцякалі, як маглі.

Адзін на начлезе замяніў кола на старое і тое развалілася пасля некалькіх кіламетраў. Прыехаў дадому на калу. Другі прыпільнаваў, калі салдат, якога ён вёз прыснуў, пацюку сапхнуў яго вінтоўку. Праз некаторы час салдат прахапіўся: "Дзе вінтоўка?" "Твая вінтоўка, ты і пільнаваць павінен, я то каня пільную." Салдат кінуўся назад шукаць вінтоўку, а дасціпны сейлавец па кані ды ў лясок, ды дадому.

У 1915 годзе, калі фронт прыблізіўся да Баранавіч, Сейлавічы сталі прыфрантавой вёскай і тут была размешчана расейская вайсковая частка, якая прастаяла, магчыма, да 1918 года.

Вайсковыя плыні 1918-1920 гадоў Сейлавічы абміналі і вялікай шкоды не нарабілі.

Польская ўлада стала ў Сейлавічах у 1920 годзе. Польска-савецкая мяжа прайшла за сем кіламетраў на ўсход ад Сейлавічаў. Бузуны, Затур'я, Цагельня засталіся на польскім баку. Масявічы, Рымашы – на савецкім. Сейлавічы знайходзіліся у памежнай зоне, дзе парадак падтрымліваў корпус памежнай варты. Дзейнасць усякіх камуністаў, камсамольцаў, прафсаюзаў была забаронена, што спрыяла захаванню міжнацыянальнага і міжканфесійнага міру.

З 1920 года Сейлавічы па-ранейшаму адносіліся да Гавязнянскай гміны, але ўжо Наваградскага ваяводства. Да Гавязнянскай гміны належала амаль палова Нясвіжскага раёна: сённяшнія Навасёлкаўскі, Сейлавіцкі, Юшавіцкі, Салтанаўскі сельсаветы і частка Стаўпецкага раёна. З цывільнай улады на ўсю гэтую гміну быў войт і два паліцыянты. У трыццатыя гады ў памяці застаўся войт Главінскі, які вызначаўся любоўю да парадку. З гэтай нагоды мог запраста ўляпіць штраф у 5 злотых за асот пад плотам. А за 5 злотых можна было купіць два пуды жыта. А калі, не дай Бог, лавілі з пасадкай тытуню ці самагонкай, то было не адкупіцца.

Але рэальная ўлада належала памежнікам. У Сейлавічах стаяў памежны падраздзел. Памежнікі і вырашылі лёс сейлавіцкай царквы. Наогул то, цывільныя польскія ўлады цэрквы не адбіралі і ў касцёлы не перараблялі. Але ў Сейлавічах склалася інакш. Папершае ўсе памяталі, што гэта была ўніяцкая царква і на яе маюць роўнае права і праваслаўныя, і каталікі. Пры цары зрабілі праваслаўную царкву. Калі стала Польшч, недзе ў 1920 ці 1921 годзе польскі капітан прыйшоў да сейлавіцкага бацюшкі і ўзяў ключ каб адспавядаць жаўнераў. Ключ больш не вярнулі. Царква была перароблена ў каталіцкі касцёл Сэрца Езуса. Кунаская царква, аднак засталася праваслаўнай. Так і памірыліся.

У Сейлавічах з'явіўся свой ксёндз. Не магу дакладна сказаць ці ўвесь час быў той самы ксёндз, але з пачатку 30-х і да канца (5 жніўня 1942 года) ксяндзам у Сейлавічах быў Юзаф Даменік. (Са слоў Казіміра Некраша, 1929 г. н.)

Польскія ўлады строга падтрымлівалі дзяржаўную дысцыпліну і павагу да польскай дзяржавы. Згадваюць такі эпізод. Адзін селянін выехаў араць на 3-е траўня (дзень польскай канстытуцыі). На каня ўскочыў афіцэр, ці сяржант, даскочыў да селяніна, два разы пацягнуў нагайкай, і больш на 3-е траўня ніхто араць не ехаў.

Але сейлаўцы ўспрымалі гэтую дысцыпліну, як той цвік у табурэтцы: "А можа так і трэба". Таму ніякіх антыпольскіх выступленняў гісторыя не зафіксавала.

Акрамя праваслаўных і каталікоў за польскім часам у Сейлавічах жылі дзве яўрэйскія сям'і: Вэльваль і Валахвянскі. З Вэльваляў памятаюць Залмана, Гершуна, Тайбу, Хайку.

Пры Польшчы школа ў Сейлавічах была адкрыта толькі ў 1937 годзе. У школе было 7 класаў. Настаўнікі былі ўсе з Польшчы. Школа стаяла на тым жа месцы, што і зараз. Да 1937 года заняткі ішлі па хатах, але і такая школа лічылася паўнавартаснай школай. Сыходзячы з гэтага трэба меркаваць, што і да рэвалюцыі ніякага школьнага будынка ў Сейлавічах не было, бо ні пра якія пажары не вядома, хіба што яго маглі заняць пад якую казарму.

З сярэдзіны 20-х гадоў палякі працягнулі Сталыпінскую рэформу высялення на хутары. Ахвотней пайшла на хутары вёска. Да 1930-га года былі заселены Сарвітут, участак ад праваслаўных могілак да Альтанкі і Сарвітуту, Касцянева, Бажантарня. На карце 1929 года засцянковыя землі: Навозы, Прыдаткі, Кулік яшчэ пустыя. Гэта пацвярджаецца і са словаў. Мой дзед Суднік на Касцянева пераехаў да 30-га года, бо ў 30-м ужо памёр. Другі дзед Некраш у Кулік пераехаў толькі ў 1937 годзе.

Ліпніцкія і Вінклераўшчына стаялі на месцы, нікуды не ссяляліся.

Сёння я магу часткова ўзнавіць засяленне хутароў. Я шмат чаго прапушчу, але лічу патрэбным зафіксаваць хаця б тое, што магчыма. Спадзяюся, што ў Сейлавічах знойдуцца людзі, якія дададуць тое, чаго не хапае і мы зможам унесці праўкі.

**На Касцяневе жылі:**

Шумскі, Навоша (Вайцюк), Чарнюк (Лапэтка), Салавей (Мар'янюк), Хвіцька (Гічап), Язэпчык, Ёдзік, Суднік.

**У Куліку жылі:**

Фірановіч (Флер'яновіч), Буліновіч, Татур, Некраш (Адась), Секержыцкі (Братачка), Цвірка (Мікалай), Цвірка (Адась), Некраш (Люцыян), Матусевіч, Ануфровіч, Пятровіч (Барабан), Шыдлоўскі, Вашкевіч, Невядомскі, Гладоўскі, Таратута, Пятровіч (Пятрушчык), Секержыцкі (Іхімчук), Некраш (Віктусь), Чырка, Цвірка Ёзік (Свенты).

**У Ліпніцкіх жылі:**

Зубовіч, Суднік, Цвірка (Сайка), двое Крэпскіх, Рымашэўскі, Татур, Пятровіч...

**На Бажантарні жылі:**

Марцінкевіч, Грынявіцкі...

**У Прыдатках жылі:**

Хоміч, Секержыцкі (Антось), Секержыцкі, Ранцэвіч, Лазарэвіч, Грынявіцкі, Гладоўскі.

**У Занавоззі (Навозе) жылі:**

Секержыцкі, Некраш (Мікалай), Мазалеўскі, Станкевіч, Матусевіч, Секержыцкі (Ясіха), Францкевіч, Ванагель, Белік.

**На Сарвітуце жылі:**

Лэнкі, Чарнюкі, Валеты...

Сейлавічы былі самадастатковай вёскай, г. зн. па большасці пытанняў яна магла абыходзіцца без навакольнага свету. У вёсцы былі майстры па большасць асноўных спецыяльнасцяў і толькі за рэдкай патрэбай трэбала выязджаць за межы.

Былі тры ветракі. Адзін належаў Тронцу, другі -- Варэніку, трэці -- Ігнацiку. Усе тры ветракі былі на праваслаўным канцы. У засценку быў паравік, належаў Салаўю.

Былі дзве ці тры кузні.

Аўчыны выраблялі Дзягель, Навоша, Савіцкі. У Сейлавічах выраблялі аўчыны толькі **на-жоўта**. Каб вырабіць **на-чорна** трэба было везці ў Баяры.

Кажухі шыў Вінцэсь Чарнюк.

Касцюмы шыў Юлік Чарнюк.

Печы рабілі Стась Грынявіцкі, Казік Секержыцкі (Самуельчык), Франак Кіраш.

Тут, безумоўна, названыя не ўсе. Частка гэтых людзей працавала пры Польшчы, частка толькі вучылася, а працавала ўжо ў вайну і пасля вайны. Не названы цесляры і сталяры, якіх было шмат, не названы краўчыхі.

Ткалі, вышывалі, пялі кашы, рабілі кадушкі і г. д. практычна ў кожнай сям'і.

Аднак трэба дадаць, што на ўсё наваколле быў толькі адзін майстар, які мог добра навастрыць падоўжную пілу. Гэта Варанковіч з Амлынцаў. Ён вастрыў пілы з улікам пароды дрэва, з улікам сырое дрэва ці сухое.

Ваўначосні былі ў Нясвіжы і Гавязне.

Валёнкі білі ў Нясвіжы і Гавязне.

Палякі ў значнай ступені абмяжоўвалі правы праваслаўнага насельніцтва. Так, каб купіць зямлю праваслаўныя павінен былі перайсці ў каталіцтва. Пры змешаных шлюбах праваслаўныя перайходзілі ў каталіцтва і дзяцей хрысцілі ў касцёле. Але ў Сейлавічах да гэтага адносіліся даволі спакойна. І маліліся тыя ж родныя браты Хвіцькі ці Чарнюкі хто ў касцёле, хто ў царкве, а пры Саветах ні там, ні там. Але ніякіх праблем з-за веры паміж імі не ўзнікала. Маглі пабіцца за зямлю, але не за веру. І да сёння Хвіцькі праваслаўныя такія ж сваякі Хвіцькам католікам, як бі і былі адной веры.

Разам з тым палякі значна паўплывалі на моладзь. Праваслаўная і каталіцкая моладзь трымалася асабняком. Нават бліся строга католікі з католікамі, праваслаўныя з праваслаўнымі. Традыцыйна бліся паміж сабой шляхта гаранская (гаранцы -- назва ад гары каля крамы, фактычна прастора ад выгана да выгана) і шляхта канцавая. Гэтая традыцыя цягнулася да 60-х гадоў. Ідучы са школы заўсёды біліся дзеці гаранскія з канцавымі. Але здаровы прагматызм браў свае.

*(Працяг у наст. нумары.)*

# Вясковыя канцэрты Алена

Яшчэ вясной гэтага году па ініцыятыве Наваполацкай Рады Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны было запланавана правесці шэраг канцэртаў беларускай песні ў вёсках нашага краю. Матывацыяй для гэтых мерапрыемстваў было тое, што з-за сучаснага стану беларускай "квітнеючай" эканомікі кіраўнікі нашай нацыянальнай (а мо нават антынацыянальнай) культуры не могуць арганізаваць выступы беларускіх артыстаў перад вяскоўцамі. Грошай хапае толькі на правядзенне "Славянскіх базараў" з іх заўсёднай маскоўскай тусоўкай.

Праўда, на вёскі час ад часу, наведваюцца нейкія гора-выканаўцы, але яны, як правіла, выконваюць калькаваныя мелодыі розных "ля-ля", "сю-сю" з усходнеславянскага рэпертуару, якія і так чуюцца штодня з радыё і тэлевізіі. Пад уплывам такой маскультуры і мясцовыя самадзейныя артысты пачынаюць пераймаць гэтую звычку і складаюць свой рэпертуар з "шэдэўраў" досыць сумніўнай вартасці. Як ні кажы, эфект падражання перад гараджанамі прысутнічае.

Вось зыходзячы з такіх меркаванняў і было вырашана наладзіць цалкам беларускамоўныя канцэрты ў вёсках, каб засведчыць у чарговы раз, што ўсё можна рабіць цікава і прывабна і па-нашаму, дакладней па-беларуску.

Канцэртам папярэднічала падрыхтоўчая праца, калі рабіліся дамовы з мясцовымі ўладамі аб выкарыстанні памяшканняў пад мерапрыемствы і непасрэдная арганізацыя рэкламы вечарынаў. На гэтым этапе, прынамсі, высветлілася, што як раз мясцовыя кіраўнікі вельмі прыхільна ставяцца да падобных ініцыятываў, бо з боку дзяржавы ніякай дапамогі ў гэтым кірунку практычна няма.

Арганізатарамі канцэртаў для правядзення першага цыклу мерапрыемстваў быў запрошаны ў якасці выканаўцы вядомы наваполацкі аўтар і выканаўца беларускіх песень Сяргей Хамякоў, які больш вядомы шырокім колам заўзятараў беларускай песні як АЛЕН. Спадар Ален з удзячнасцю пагадзіўся выканаць вызначаную ролю. Папярэдне быў акрэслены асноўны рэпертуар, які складаўся з вядомых аленскіх гітоў крыху ранейшага перыяду яго творчасці.

І вось, 29 чэрвеня – першы, з запланаваных, канцэртаў у вёсцы Варонічы. Натуральна, яму папярэднічае і хваляванне. Як сустрэнуць вяскоўцы? Ды ці збяруцца ўвогуле. Бо летнім часам сялянам асабліва не да адпачынку. Хваляванні не толькі ў артыста, але і ў вядоўцы. І таму ёсць свае прычыны. Весці канцэрт спадар Ален даручыў (ці папрасіў) аднаго з сваіх сяброў, грамадскага і палітычнага дзеяча з Наваполацка спадара Уладзіміра Кунцэвіча. І хаця спадару Кунцэвічу не ўпершыню выступаць перад вялікімі аўдыторыямі, тым не менш выпадак для яго быў неардынарны. Хаця праехаў ён з Аленам досыць шмат і адзін другога ведаюць добра, але непасрэдна на канцэртах разам упершыню. Па-другое, як раз у вёсцы Варонічы Уладзімір Кунцэвіч вучыўся ў пачатковай школе і шмат гадоў назад яму, тады яшчэ маленькаму шкаляру, даводзілася выступаць менавіта з гэтай клубнай сцэны перад сваімі аднавяскоўцамі.



**6 ліпеня 2001 г. Вёска Забор'е, Расонскі р-н. Прыхільнікі беларускага слова пасля канцэрту Алена. Ён у першым радзе пасярэдзіне. Першы рад, справа – сп-ня Тамара Герасімава, старшыня Заборскай суполкі ТБМ, другі рад, у белай кашулі – Аляксандр Крол, намеснік старшыні.**

Тым часам у зале сабраліся гледачы. Людзі рознага ўзросту. Шмат дзяцей. Шмат і пенсіянераў. Нехта з дзятвы нават запытаўся ў арганізатараў ці праўда, што канцэрт будзе цалкам беларускім? Чаго больш у гэтым пытанні? Здзіўлення ці недаверу? Кропкі над і расставіць сама вечарына...

На сцэне з'яўляюцца спявак і вядовец. Ален спявае песню пра сваё дзяцінства. Гэта ўжо пэўная традыцыя, выпрацаваная гадамі выступленняў. Так лепш пазнаёміцца з публікай, што сабралася ў зале. Па заканчэнні песні гучаць апладысменты, якія сведчаць, што першы кантакт з гледачамі ўсталяваны.

Пасля кожнай песні Уладзя Кунцэвіч распавядае якую-небудзь гісторыю, потым ізноў спявае Ален, а затым чарговыя апладысменты ўдзячных гледачоў. Далей гучаць песні аб Полацку, пра школьных сяброў, натуральна, "Яна" і "Мафія". У клубнай зале усталёўваецца зваротная сувязь. Вяскоўцы пачынаюць задаваць пытанні спеваку, вядоўцу. Пытанні на разнастайныя тэматы: пра стаўленне да нацыянальнай сімволікі, аб канцэртах Алена, што адбываліся ў Амерыцы і беларускай эміграцыі, шмат яшчэ аб чым і нават аб выбарах прэзідэнта Беларусі. Гэтыя пытанні сведчаць аб тым, што нават даверлівым па сваёй натуры вясковым людзям надакучыла атрымліваць тэндэнцыйную, аднабаковую інфармацыю з дзяржаўных інфармацыйных крыніцаў, адпаведным чынам "падрыхтаваную" зімоўска-азаронкаўскай хеўрай хлуслівых падхалімаў рэжыму сучаснай улады.

Магчыма, лепш такія канцэрты назваць паэтычна-лірычнай размовай усіх удзельнікаў вечарыны. Відаць, даўно Вароніцкі клуб не бачыў такіх шчырых размоваў артыстаў і гледачоў. Па заканчэнні канцэрту арганізатары пачулі яшчэ шмат удзячных словаў за праведзенае мерапрыемства, за беларускія спевы. Многія людзі так і прызнаваліся: мы і не ведалі, што можна пачуць столькі беларускіх прыгожых эстрадных песняў. Былі і кветкі ўдзячнасці і запрашэнні прыехаць яшчэ.

Людзі доўга не разыходзіліся і ля прыступак клуба доўжылася нефармальная гаворка аб надзённых пытаннях сучаснай беларускай рэчаіснасці. І гэтая размова так сама засведчыла тое, што на вёсках жывуць не толькі электаральныя прыхільнікі савецкіх традыцыяў. Там шмат людзей, што чакаюць рэформаў еўрапейскага маштабу. З гэтымі людзьмі толькі трэба пастаянна працаваць і не дазваляць абалваньваць розным "рэзанацыйным" халуям.

Прыблізна па такому ж сцэнару адбываліся канцэрты і ў іншых вёсках. А ў вёсцы Забор'е Расонскага раёну пасля вечарыны нават была створаная мясцовая суполка Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны. Такім чынам, спадар Ален дапамог не толькі адпачыць вяскоўцам, але і зыніцыяваў утварэнне арганізацыі прыхільнікаў беларускага слова. Асабліва прыемна, што гэта адбылося ў Расонскім раёне, дзе практычна няма дэмакратычных грамадскіх аб'яднанняў.

Па выніках гэтых мерапрыемстваў арганізатарамі распрацоўваецца яшчэ цыкл падобных вясковых канцэртаў. Тэхнічную падтрымку ў правядзенні канцэртаў аказваюць наваполацкія рэсурсавыя цэнтры "Усяслаў Чарадзей" і "Новы Горад".

*Уладзя Касаровец.*




## Прэзентацыі, канцэрты, сустрэчы...

10 гадоў творчай дзейнасці калектыва, які працуе самастойна, без падтрымкі дзяржавы, у сёняшняй Беларусі – з'ява ўнікальная. Менавіта так можна ахарактарызаваць жыццё знакамітага фальклёрнага гурта "Ліцьвіны", які ўвесь час знаходзіцца ў фальклёрных экспедыцыях, у гастрольных паездках па Беларусі і за мяжой краіны, выдае касеты і кампакт-дыскі з цудоўнымі беларускімі песнямі і танцавальнымі мелодыямі.

Але на Радзіме канцэрты знакамітага гурта адбываюцца не так часта. І вось такая магчымасць сустрэцца з любімымі выканаўцамі з'явілася ў сталічных аматараў фальклёру. 5 верасня ў Доме культуры трактарнага завода адбыўся юбілейны канцэрт "Ліцьвінам – 10 год".

* * *

7 верасня ў Доме культуры ветэранаў адбылася прэзентацыя альбома сярэдневечнай музыкі Беларусі "Легенды Вялікага Княства", якую ладзілі выдаўцы фанаграфічнай навінкі – моладзевая ініцыятыва БМА-груп і клуб "Рыцары Вялікага Княства".

Пад час прэзентацыі гучала рыцарская і ваярская музыка, сучасныя кампазіцыі на гэтую тэму ў выкананні беларускіх бардаў і гуртоў, а стваральнікі канцэпцыі дыска А. Вячорка, У. Давыдоўскі і Зм. Герасімовіч распавялі пра тое, як гэты праект нараджаўся і стаў рэальнасцю, пра яго далейшыя перспектывы і адметнасці.

На імпрэзу запрашаліся ўсе зацікаўленыя беларускай даўніной і жадаўшыя набыць дыск "Легенды Вялікага Княства".

*А. Мяльгуй*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by

*Рэдакцыйная калегія:*
Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзеных інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 17. 09. 2001 г.
Наклад 5050 асобнікаў. Замова № 2139.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 302 руб., 3 мес.- 906 руб.
*Кошт у розніцу:* 80 руб.